Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 20 (4923) 19 мая 2017 г.



# ЗА БЕЛАРУСКІМ «СТАЛОМ»,

## альбо Чым «частуе» наша краіна на 57-й Венецыянскай біенале?

**Напрыканцы мінулага тыдня быў адкрыты асноўны праект 57-й Венецыянскай біенале сучаснага мастацтва «Viva arte viva» («Жыве жывое мастацтва!»), дзе для шырокай публікі прадстаўлена каля васьмідзесяці шасці нацыянальных экспазіцый, у тым ліку і Беларусі. Наша краіна бярэ ўдзел у Венецыянскай біенале ў чацвёрты раз, і гэта вялікі досвед і дасягненне айчыннага мастацтва: праз такія мерапрыемствы мы можам паказаць не толькі творчыя дасягненні, індывідуальнасць мастакоў, але і гучна расказаць пра Беларусь, яе менталітэт і нацыянальную культуру.**

### Аб'ект і суб'екты

Сёлета ад Беларусі з куратарскім праектам «Стол» у біенале дэбютаваў знакаміты мастак Раман Заслонаў, які адышоў ад звыклага амплуа жывапісца і прапанаваў — у прамым сэнсе — пасадзіць за беларускі стол прадстаўнікоў розных краін, каб дапамагчы ім адчуць нашу нацыянальную гасціннасць і побыт. У тэхнічнай рэалізацыі мастацкай ідэі аўтару дапамагалі рэжысёр Сяргей Талыбаў і прадзюсар Віктар Лабковіч.

— Дастаткова часта ў сучасным мастацтве за аснову бярэцца адзін аб'ект, вакол якога ствараецца мастацкая сітуацыя, — распавядае пра ідэю праекта Рамана Заслонава камісар павільёна Беларусі на Венецыянскай біенале, мастацтвазнаўца Наталля Шаранговіч. — Гэта досыць вядомы трэнд у свеце. Напрыклад, той жа Беларускі саюз дызайнераў выкарыстаў, здавалася б, такі звычайны побытавы аб'ект, як крэсла, і стварыў вакол яго цэлую гісторыю. У выніку атрымаўся выдатны праект «Пастулат», дзе крэсла становіцца выразнікам розных мастацкіх ідэй, аж да таго, што праз крэсла перадаюцца ідэі авангарду. Такая ж сітуацыя і ў выпадку з удзелам Беларусі ў Венецыянскай біенале. Раман Заслонаў выкарыстаў адзін побытавы аб'ект — стол — і паспрабаваў вакол яго стварыць мастацкае дзеянне з дапамогай відэаарту.



*Беларускі павільён на Венецыянскай біенале*

Працяг на стар. 12 ▶

# УТУЛЬНЫХ ЧЫТАННЯЎ!

## Кнігі на вольным паветры


*Фота з архіва «ЛіМа».*

Гульні-прыгоды, «кніжная зумба», сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі і героямі лепшых дзіцячых кніг, майстар-класы, лекцыі, прысвечаныя дасягненням сучаснай навукі, і безліч іншых цікавых івентаў чакаюць гасцей трэцяга фестывалю «Горад і кнігі», які распачаўся сёння ў Мінску. Фестываль ператварыўся ў сапраўднае гарадское свята, бо ладзіцца на вольным паветры, у зялёным утульным дворыку Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта.

У фестывалю сямейны фармат: адначасова на розных пляцоўках арганізаваныя мерапрыемствы для наведнікаў рознага ўзросту і розных зацікаўленняў. Для самых маленькіх — спектаклі ад бэбі-тэатра «Бусы», тэатральнай студыі *Konislon*, праектаў «Казачкі бай» і «Альтанка для чытанкі». Удзельнічаюць у кніжным свяце і многія іншыя літаратурныя тэатры, да якіх далучылася вялікая каманда арганізатараў гучных чытанняў. Аксана Спрынчан чытае вершы са «Смачнай кнігі», Святлана Цімохіна — «Краязнаўчыя казкі» ад газеты «Аргументы и факты» ў Беларусі. Фестываль працягваецца два дні — і заўтра да чытальнікаў далучацца Алесь Суша, Людміла Рублеўская, Уладзімір Садоўскі ды іншыя творцы.

Працяг на стар. 3 ▶

## Пункцірам

✔ У Полацку пад старшынствам намесніка Прэм'ер-міністра Беларусі Васіля Жарко, пры ўдзеле міністраў інфармацыі і культуры, прадстаўнікоў іншых зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў адбылося пасяджэнне нацыянальнага аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства, які пройдзе сёлета ў гэтым старажытным горадзе. Удзельнікі аргкамітэта азнаёміліся з падрыхтоўкай асноўных аб'ектаў да свята. Пабывалі ў Мастацкай галерэі, Полацкім дзяржуніверсітэце, Сафійскім саборы, Музеі беларускага кнігадрукавання. На пленарным пасяджэнні разгледжаны ключавыя моманты падрыхтоўкі Дня пісьменства. За аснову канцэпцыі мастацка-гістарычнага дзейства «Беларускі шлях», якое стане часткай урачыстага адкрыцця, узятыя дзве юбілейныя даты: 1155-годдзе Полацка і 500-годдзе беларускага кнігадрукавання.

✔ Паводле міністра культуры Беларусі Барыса Святлова, які пракаментаваў выступленне беларускай групы *NaviBand* на міжнародным песенным конкурсе «Еўрабачанне-2017», «галоўнае, што мы паказалі сябе, паказалі Беларусь». Прагучала беларуская песня, беларуская мова. «І, на мой погляд, наш дуэт быў самым сімпатычным», — падзяліўся меркаваннем кіраўнік культурнага ведамства.

✔ У Мінску ў чэрвені стартуюць першыя з 15 святаў нацыянальных культур, паведамілі ў прэс-службе Мінгарвыканкама. Адкрые цыкл мерапрыемстваў у Верхнім горадзе 3 чэрвеня свята шведскай культуры. Цягам месяца мінчане і госці сталіцы змогуць азнаёміцца з рускай, казахскай і літоўскай культурай. Традыцыя правядзення ў гістарычным цэнтры Мінска святаў нацыянальных культур нарадзілася летась. Жыхароў пазнаёмілі з армянскай, польскай, украінскай, азербайджанскай, яўрэйскай, карэйскай і грузінскай культурамі.

✔ Выстаўка «У. Караткевіч "Дзікае паляванне караля Стаха"» з цыкла «Літаратура ў мастацтве» адкрывае сёння цыкл выставак Прэзідэнцкай бібліятэкі, прысвечаных найбольш вядомым творам у беларускай літаратуры. У экспазіцыях будуць прадстаўленя кнігі, на якіх выхавана не адно пакаленне беларусаў і якія з'яўляюцца візітоўкай краіны ў сусветнай культурнай прасторы.

✔ XXIV Міжнародны фестываль песні і музыкі «Дняпроўскія галасы ў Дуброўне» пройдзе 20 — 21 мая і збярэ калектывы мастацкай самадзейнасці з сямі краін. Увечары 20 мая на галоўнай сцэне адбудзецца ўрачыстае адкрыццё фестывалю і канцэрт-прэзентацыя калектываўудзельнікаў «Карагод талентаў». На другі дзень гасцей фэсту запросіць свята рамёстваў «Дняпроўскі кірмаш», гала-канцэрт з цырымоніяй узнагароджвання «Чаруеш і яднаеш ты, Дняпро!», народны абрад праводзінаў гасцей «Пасахі — на лёгкія шляхі», вячэрняя праграма з удзелам беларускіх эстрадных артыстаў.

✔ «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў» восьмы раз збяруць гасцей у Нясвіжы, паведамілі ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі. У Касцёле Божага Цела 23 чэрвеня Віктар Скорабагатаў прадставіць праграму «Беларускі класіцызм», а вечарам ва ўнутраным дворыку замка балет Адольфа Адана «Жызэль, або Віліс» адкрые фестываль. Завершыцца трохдзённае свята грандыёзным «Радзівілаўскім балем».

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# КАБ СЛОВУ ПАСПРЫЯЦЬ

### Распачаты прыём заявак на Нацыянальную літаратурную прэмію

Конкурс мае на мэце падтрымаць развіццё беларускай мастацкай літаратуры, стымуляваць стварэнне новых высокамастацкіх твораў для дарослых, дзяцей і юнацтва, папулярызацыю кніг і чытання ў грамадстве.

Заснавальнікі конкурсу — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт і Саюз пісьменнікаў Беларусі — запрашаюць аўтараў прадставіць лепшыя ўзоры сваёй літаратурнай творчасці — кнігі, упершыню выпушчаныя выдавецкімі арганізацыямі краіны ў 2016 годзе.

Заяўкі прымаюцца ад фізічных асоб (у тым ліку ад іх афіцыйных прадстаўнікоў), а таксама ад творчых саюзаў, выдавецтваў, рэдакцый СМІ, устаноў культуры і адукацыі, навуковых арганізацый, якія працуюць у галіне мастацкай літаратуры і літаратуразнаўства. Удзельнікамі конкурсу могуць быць таксама аўтарскія калектывы ў складзе не больш як чатыры чалавекі — аўтары твораў мастацкай літаратуры ў жанрах паэзіі, прозы, публіцыстыкі, драматургіі, літаратурнай крытыкі і літаратуразнаўства.

Першы этап конкурсу ўжо распачаты: заяўкі, да разгляду якіх далучыўся экспертны савет, паступілі па ўсіх сямі намінацыях. Праявілі актыўнасць абласныя, Мінскае гарадское аддзяленні СПБ. Прэтэндэнтаў на Нацыянальную літаратурную прэмію вылучыла секцыя дзіцячай літаратуры СПБ. Такім чынам, па колькасці заявак лідзіруе намінацыя «Лепшы твор для дзяцей і юнацтва», што сведчыць пра арыентацыю сучасных літаратурных твораў менавіта на дзіцячую аўдыторыю.

Аднак аўтарам, якія спадзяюцца трапіць на Алімп, важна ўлічваць яшчэ і грамадскае прызнанне іх твораў. У Інструкцыі аб парадку арганізацыі і правядзення Рэспубліканскага конкурсу «Нацыянальная літаратурная прэмія» вызначаныя крытэрыі, па якіх ацэньваецца вартасць выдання. Да ўвагі прымаюцца прадстаўленыя аўтарам колькасць і змест артыкулаў, рэцэнзій, водгукаў у СМІ, на інтэрнэт-рэсурсах, а таксама колькасць пісьмовых водгукаў чытачоў, пераклады твора на іншыя мовы. Акрамя таго, па дадзеных Міністэрства культуры, улічваецца запатрабаванасць вылучаных на конкурс кніг у публічных бібліятэках.

Пасля таго, як экспертная камісія адбярэ творы з улікам іх адпаведнасці ўмовам конкурсу, пачнецца другі (фінальны) этап. Экспертная камісія не толькі накіруе творы для разгляду журы, але і прадаставіць для публікацыі ў СМІ шорт-ліст намінантаў на Нацыянальную літаратурную прэмію. Такім чынам, чытачы змогуць сказаць сваё важкае слова на адрас лепшых кніг 2016 года ў водгуках, рэцэнзіях. Гэта, безумоўна, надасць вагі прэтэндэнтам на высокую ўзнагароду.

Імёны ўладальнікаў «Нацыянальнай літаратурнай прэміі» 2016 года будуць абвешчаныя падчас святкавання Дня беларускага пісьменства ў Полацку.

Заяўкі да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца да 1 ліпеня.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

## Фэст

# РАЗАМ З КЛАСІКАМІ



Сёлета гасцей будзе вітаць ужо XVII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2017», які пройдзе 2 і 3 чэрвеня. Праграма, прысвечаная 135-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа, прэзентацыі кніг, аўтограф-сесіі паэтаў і пісьменнікаў, юбілейны канцэрт ансамбля «Сябры» — каб убачыць і пачуць усё гэта, варта завітаць у Маладзечна ў першыя выхадныя лета.

Традыцыйна цэнтральным мерапрыемствам фестывалю стане конкурс маладых выканаўцаў. Яны праспяваюць па дзве песні на беларускай мове. Першы тур пройдзе на сцэне Палаца культуры Маладзечна пад фанаграму «мінус адзін», другі — на галоўнай пляцоўцы ў Летнім амфітэатры Маладзечна ў суправаджэнні жывога гуку ад Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.

— Увечары 2 чэрвеня будуць падведзены вынікі конкурсу маладых выканаўцаў, пераможцы атрымаюць узнагароды, — удакладніла першы намеснік міністра культуры Беларусі Ірына ДРЫГА. — А таксама адбудзецца прэм'ера праграмы Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра з сімвалічнай назвай «Купала і Колас, вы нас гадавалі», аўтар і складальнік якой — Міхаіл Фінберг.

Насычанай чакаецца праграма другога дня фестывалю. Адбудзецца канцэрт акадэмічнай музыкі ў дзіцячай музычнай школе. Штогод там прэзентуюць малавядомыя творы мінулых эпох — кампазітараў XVII, XVIII і XIX стагоддзяў. У гэты ж дзень артысты аркестра выступяць у вёсцы Чысць.

Канцэрт-закрыццё прымеркаваны да 45-гадовага юбілею ансамбля «Сябры». Яго вядучым будзе народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка.

— Фестываль, які з 1993 года ладзіцца ў Маладзечне, стаў своеасаблівай візітоўкай Міншчыны, — распавяла выконваючая абавязкі начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Святлана БАРАНОК. — Праграма фестывалю сёлета досыць разнастайная. У тым ліку дзякуючы зацікаўленасці Саюза пісьменнікаў Беларусі. «Паэтычная гасцёўня» заўсёды прыцягвае гледачоў. Мы пачуем у аўтарскім выкананні вершы, адбудуцца аўтограф-сесіі, у тым ліку з Міхасём Пазняковым як намінантам на дзяржпрэмію. Акрамя гэтай праграмы, якая будзе арганізавана падчас фестывалю 2 і 3 чэрвеня, таксама 31 мая і 1 чэрвеня Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі падрыхтуе праграму прэзентацый твораў, а таксама сустрэчы ва ўстановах адукацыі.

Плануецца выстаўка з фондаў літаратурных музеяў краіны. На сцэне Палаца культуры гледачы змогуць убачыць спектакль «Паўлінка», які прывязе Купалаўскі тэатр. Побач з Палацам культуры будзе працаваць паэтычная пляцоўка «Чытаем Купалу і Коласа разам». Запланаваны і дзіцячы канцэрт «Маладзічок запальвае Зоркі».

Як распавяла дырэктар Палаца культуры Маладзечна Святлана САРОКА, горад да правядзення фестывалю гатовы: падрыхтаваныя асноўныя пляцоўкі і ўстановы культуры. Квіткі на канцэрт адкрыцця каштуюць ад 7 да 9 руб., на закрыццё — 10 — 15 руб., на спектакль «Паўлінка» — 5 — 7 руб. На іншыя імпрэзы ўваход вольны.

**Ніна ШЧАРБАЧЭВІЧ**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**22 мая** — *на пасяджэнне літаратурнага клуба «Спадчына» пры сталічнай гімназіі № 35. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**22 мая** — *на свята дзіцячай кнігі ў гімназію № 14, прысвечанае 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**23 мая** — *у Школу юнага празаіка пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ. Пачатак у 14.30.*

**24 мая** — *на творчую імпрэзу ў публічную бібліятэку імя Л. Талстога № 1, падчас якой адкрыецца выстаўка фотамастака Міхаіла Крыжаноўскага «Творчая Беларусь». Пачатак а 17-й гадзіне.*

**25 мая** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ. Пачатак у 14.30.*

**26 мая** — *у літаратурны клуб «Аўтограф» пры інтэрнаце БДЭУ на творчы вечар паэта Хізры Асадулаева. Пачатак а 18-й гадзіне.*

### Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**24 мая** — *у абласны Цэнтр моладзевай творчасці на абласны этап рэспубліканскага конкурсу чытальнікаў «Жывая класіка». Пачатак а 14-й гадзіне.*

**25 мая** — *у гарадскую бібліятэку імя Пушкіна на прэзентацыю першага нумара газеты «ЛІК» (галоўны рэдактар — сябар СПБ, паэт Вячаслаў Бельцюкоў) Пачатак аб 11-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**23 мая** — *на падвядзенне вынікаў конкурсу «Скарбы роднай зямлі» ў полацкую гімназію № 1. Пачатак а 12-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**20 мая** — *на абласны этап рэспубліканскага творчага конкурсу юных чытальнікаў «Жывая класіка» ў Гродзенскі дзяржаўны абласны Палац творчасці дзяцей і моладзі. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**25 мая** — *на сустрэчу слухачоў аддзялення павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры вобласці з пісьменнікамі Людмілай Кебіч і Ганнай Скаржынскай-Савіцкай у Гродзенскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**25 мая** — *на грамадска-літаратурную акцыю «Чытаем разам», прысвечаную творчасці сучасных літаратараў Прынёманскага краю, у Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Я. Карскага (Новы замак). Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**24 мая** — *у інтэрнат № 3 БДСГА на літаратурны вечар «За скарб жыцця прымаю дабрыню…», прысвечаны 65-годдзю з дня нараджэння паэта Аляксандра Клачкова. Пачатак а 18-й гадзіне.*

Памяць

# ПАЭТ МЕРЫДЫЯНАЎ ДЫ СУЗОР'ЯЎ



Сёлетні май хоць і сонечны, хоць і абуджае да жыцця, ды, на вялікі жаль, не абыходзіцца і без чорных дзён. Страта за стратай…

І вось чарговая горкая жалоба. 15 мая на 77-м годзе жыцця перастала біцца сэрца Васіля Сцяпанавіча Макарэвіча, выдатнага беларускага паэта, журналіста, шчырага, адданага роднай зямлі чалавека. Да свайго 78-годдзя ён не дажыў два месяцы.

Васіль Сцяпанавіч нарадзіўся 15 ліпеня 1939 года ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1957 годзе, пасля заканчэння сярэдняй школы, працаваў на лесарасплоцоўках на Поўначы, з 1958 года — у калгасе «Ухвала» Крупскага раёна. Пасля заканчэння аддзялення журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1964) чатыры гады працаваў у газеце «Чырвоная змена». З 1979-га па 2003-і — спецкарэспандэнт Беларускага радыё.

Аўтар зборнікаў паэзіі «Вогненная камета» (1963), «Мерыдыяны і паралелі» (1966), вершаванай казкі «Лясныя вандраванні» (1967), «Ліставей» (паэма і вершы, 1971), «Вечнае дрэва» (вершы і паэма, 1974), празаічнай кнігі аповедаў «Палын і медуніца» (1976), «Радоўка» (вершы і паэма, 1977), нарысаў «Зямное сузор'е» (1980), «Полынь и медуница: рассказы о моих земляках» (1980), «Старт у будучыню» (1982), «Праталіна» (1983), зборнікаў «Відушчы посах» (вершы, паэма, 1987), «Сумежжа» (вершы, паэмы, 1989), «Везувій» (1993), «Квадратура круга» (2000), кнігі вершаў, паэм і артыкулаў «Пяро і бліскавіца» (2001), зборнік сатыры і гумару «Даміно» (2005), кнігі выбранага «Неба ў руках» (2012), «Святло імёнаў дарагіх: творчыя партрэты беларускіх пісьменнікаў» (2016) ды інш.

Васіль Сцяпанавіч — лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1994) і літаратурнай прэміі «Залаты купідон» (2012).

Бывай, дарагі сябра і калега! Таленавітыя, шчырыя творы і прыязная ўсмешка заўсёды будуць нагадваць пра цябе.

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці Васіля Сцяпанавіча МАКАРЭВІЧА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ смуткуе з прычыны заўчаснай смерці генеральнага дырэктара Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду Уладзіслава Антонавіча МАЧУЛЬСКАГА і выказвае глыбокія спачуванні яго родным і блізкім.

# УТУЛЬНЫХ ЧЫТАННЯЎ!



Фота Аляксандра Каменчуковa.

Каб выбраць кнігу для ўласнага чытання — на ўтульных падушках ля бібліятэкі «Кніжнай нары» альбо ў больш аддаленай перспектыве, на летніх канікулах, — на фестывалі дзейнічае кніжная выстаўка, агледзець якую можна з аўдыягідам, пад-рыхтаваным арганізатарамі Наталляй Мядзведзь і Марыяй Дуброўскай.

Шмат карысных і пазнавальных сустрэч запланавана для школьнікаў: адкрытыя лекцыі ад навукоўцаў, інтэрактыўныя чытанні на англійскай мове, майстар-клас па маляванні коміксаў ад Маргарыты Латышкевіч… Сярод самых актуальных падзей — размова з пісьменнікамі Яўгеніяй Пастарнак і Андрэем Жвалеўскім «Калі нехта стаіць на краі...», прысвечаная праблеме самагубстваў. Як зразумець, што чалавек побач з табой апынуўся ў пamежнай сітуацыі? Што варта казаць і чаго не варта рабіць? Чаму тэма самагубстваў заўсёды папулярная ў падлеткавым асяроддзі? На гэтыя пытанні вядомыя аўтары шукалі адказы не толькі разам з наведнікамі фестывалю, але і ў новай аповесці «Пакуль я на краі».

Акрамя дзіцячай і моладзевай пляцоўкі, на фестывалі працуе стол майстар-класаў, дзе можна зрабіць прыемныя сувеніры, а таксама дзейнічае пляцоўка экспертных сустрэч. Пятніца абвешчана Нацыянальным днём інфармаванасці пра дзейнасць бібліятэк, а ў суботу на экспертнай пляцоўцы можна будзе даведацца пра тое, як зайцмальна і хутка навучыць дзіця чытаць, як зла-дзіць самыя ўтульныя сямейныя чытанні і, урэшце, як выдаць уласную кнігу, якую пры жаданні можна прэзентаваць падчас наступнага фестывалю «Горад і кнігі».

Гасцямі свята сёлета сталі не толькі беларускія пісьменнікі, але і вядомыя расійскія аўтары: Анастасія Арлова, Марына Аромштам, Святлана Прудоўская, Наталля Еўдакімава, Аляксандр Панчын. Марына Аромштам, пісьменніца, тэарэтык і практык дзіцячага чытання, распавядзе пра Папмамбук — інтэрнэт-часопіс для тых, хто чытае дзецям. Аляксандр Панчын — расійскі біёлаг і папулярызатар навукі — вядзе адкрытыя лекцыі па геннай інжынерыі і магічным мысленні.

Праз зварот да кнігі можна зладзіць самыя розныя сустрэчы. Напрыклад, паразважаць пра каханне і побыт ра-зам з пісьменнікамі Ігарам Паляковым і Тамарай Лісіцкай, адматаць стужку часу гадоў на сорак назад і душэўна пагладзець дыяфільмы, запрасіць сабак-тэрапеў-таў на інтэрактыўнае чытанне казкі пра Пушка і Бандыта...

Вынаходлівасць арганізатараў фестывалю не ведае межаў — не толькі ў пераносным, але і ў самым канкрэтным значэнні. Сёлета фестываль «Горад і кнігі» робіць гіганцкі крок да набыцця міжнароднага статусу. А перспектывай гэтага выдатнага праекта магло б стаць пашырэнне геаграфіі фестывалю ў Беларусі. Кніжныя святы такога фармату, максімальна адкрытыя не толькі для наведнікаў, але і для творцаў, якія могуць прапанаваць свае івенты, прывабілі б да чытання жыхароў многіх іншых беларускіх гарадоў і дапамаглі б сарыентавацца ў сучаснай літаратуры.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**

## Дайджэст

• Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў Брэсце ўсталююць помнік Берасцейскай Біблії. Ужо аб'яўлены адкрыты конкурс на распрацоўку эскізнага праекта памятнага знака, прысвечанага выдадзенай у 1563 годзе Бібліі. Прыём заявак ад удзельнікаў будзе доўжыцца да 12 чэрвеня. «Да стварэння помніка Берасцейскай Біблії мы хочам прыцягнуць як мага больш людзей. Да конкурсу могуць далучыцца і прапанаваць свае варыянты жыхары ўсіх рэгіёнаў Беларусі, замежныя майстры», — падкрэсліў Вячаслаў Гарбузаў. Эскізы майстры могуць дасылаць на адрас упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама. Найлепшы праект будзе абраны на абласным мастацка-экспертным савеце. Пераможцу творчага конкурсу чакае грашовая прэмія ў 40 базавых велічынях. Помнік Брэсцкай Біблії ўсталююць на скрыжаванні вуліц Пушкінская і Кірава, паблізу абласной бібліятэкі імя Горкага. Фінансавацца праект будзе за кошт абласнога бюджэту, спонсарскіх ахвяраванняў.

• Лаўрэатамі прэміі за найлепшую беларускую кнігу ў галіне *non-fiction* сталі Зміцер Бартосік (кніга «Быў у пана верабейка гаварушчы»), Вітаўт Кіпель з кнігай «Жыць і дзеіць», а трэцюю прэмію атрымаў Сяргей Чыгрын за кнігу «На радзіме Ігната Дварчаніна: з краязнаўчых вандровак па Дзятлаўшчыне». Прэмія Аляксандра і Марыі Стагановічаў заснаваная ў галіне *non-fiction* іх дачкой, мастачкай Тамарай Стагановіч, і сёлета ўручалася другі раз. Трох пераможцаў вызначае журы. Сёлета на конкурс было прадстаўлена 26 твораў. У лонг-ліст увайшлі 15, у кароткі спіс — 7.

• Мінскі «АРТ-кінатэатр» у межах праекта «СВАЁ КІНО: любім і глядзім» ладзіць 22 мая аўтарскі вечар рэжысёра-дакументаліста Андрэя Куцілы. Будуць прадстаўленыя фільмы «Цар гары» (2017) і «Мімаходдзе» (2016). Першы распавядае пра жыццё відэаблогера і фермера, які ўжо пяць гадоў жыве з сям'ёй у вёсцы. Сюжэт фільма «Мімаходдзе» закранае праблемы нацыянальных каштоўнасцяў, нацыянальнай памяці. Праект «Сваё Кіно» паказвае новае беларускія фільмы і наладжвае жывы кантакт, дыскусіі гледачоў з аўтарамі, крытыкамі і героямі карцін. Праект уключае ігравое, дакументальнае кіно і анімацыю. Галоўны прынцып — фільм створаны беларусамі або так ці інакш звязаны з нашай краінай. Асноўная мэта праекта «Сваё Кіно» — змяніць стаўленне шырокай публікі да сучаснага беларускага кіно, дапамагчы айчынным аўтарам знайсці свайго гледача, убачыць тэмы і праблемы, цікавыя тут і цяпер. Паказы ладзяцца штомесяц цягам года.

## ЛіМ-каляндар

**15 мая** — 135 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Галубка (сапр. Голуб; 1882 — 1937), беларускага тэатральнага дзеяча, драматурга, рэжысёра, акцёра, мастака, народнага артыста БССР.

**15 мая** — 105 гадоў з дня нараджэння Анатоля Іверса (сапр. Іван Міско; 1912 — 1999), беларускага паэта.

**15 мая** — 95 гадоў з дня нараджэння Пятра Васілеўскага (1922 — 2002), беларускага празаіка, драматурга, сцэнарыста, кінарэжысёра.

**15 мая** 75 гадоў адзначыла Святлана Марчанка, беларускі крытык, паэтэса.

**15 мая** 70-гадовы юбілей адсвяткаваў Аляксандр Родзін, беларускі жывапісец.

**16 мая** 60 гадоў споўнілася Уладзіміру Ануфрыеву, беларускаму мастаку дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

**18 мая** 75 гадоў адсвяткавала Эльвіра Пазняк, беларускі майстра дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

**19 мая** — 80 гадоў з дня нараджэння Самсона Палякова (1937 — 2012), беларускага кінасцэнарыста, журналіста.

**20 мая** — 115 гадоў з дня нараджэння Язэпа Пушчы (сапр. Іосіф Плашчынскі; 1902 — 1964), беларускага паэта, крытыка, перакладчыка.

**20 мая** — 75 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Галкоўскага (1942 — 2010), беларускага спевака, заслужанага артыста БССР.

**20 мая** 60-годдзе адзначае Мікалай Кандратаў, беларускі паэт.

**21 мая** — 95 гадоў з дня нараджэння Івана Гурбана (1922 — 1999), беларускага дзіцячага пісьменніка.

# АД РАЗМОВЫ ДА ПЕРФОМАНСУ:

## КУДЫ ПАЙСЦІ Ў «НОЧ МУЗЕЯЎ — 2017»?

**Ноч — таямнічы, загадкавы і натхняльны час. Уночы — толькі самыя незвычайныя прыгоды, самыя творчыя ідэі, самыя рамантычныя спатканнні, самыя шчырыя размовы і… самыя цікавыя экскурсіі.**



Фота БелТА.

**1. Шляхамі кантрабандыстаў з Нацыянальным гістарычным музеем Беларусі.**

Ноч музеяў Нацыянальнага гістарычнага музея прымеркаваная да закрыцця выставачнага праекта «Гандаль Беларусі на шалях гісторыі». Музейшчыкі прапануюць паглядзець на гандаль з іншага боку ды пазнаёміцца з яго таемнымі і незаўважнымі аспектамі.

Дапамогуць квэст «Патаемнымі сцежкамі кантрабандыстаў», дзіцячы лега-лабірынт, тэматычныя фотазоны ды канцэрт, які будзе доўжыцца аж да другой гадзіны ночы, перфомансы з тэатральна-музыкальна-танцавальнай праграмай беларускага франкафоннага тэатра *MooTeatro* ды марафон настольных гульняў. Нават фільмы пра гандаль і кантрабандыстаў у музейнай кіназале.

Дом-музей І з'езда РСДРП праводзіць «Ноч канспірацыі». Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры адкрывае сакрэты тэатральнай грымёркі ды зладзіць відэапаказ спектакля Джузепэ Вердзі «Травіята». У музеі гісторыі беларускага кіно чакаецца рэтраспектыва беларускага кароткаметражнага кіно «Лепшае за апошнія 5 гадоў». Гасцёўня Уладзіслава Галубка запрашае на прадстаўленне лялечнага тэатра «Батлейка».

**2. «Начны дазор» у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.**

Асновай творчай імпрэзы стане постмадэрнісцкі раман аргенцінскага пісьменніка Хуліа Картасара «Гульня ў класікі». Візітоўкай «Гульні ў класікі» можна назваць яе нелінейную кампазіцыю, пры якой чытач сам абірае, якія раздзелы і ў якой паслядоўнасці чытаць. Такой жа мадэлі вечара прытрымліваюцца музейшчыкі: наведнікі імпрэзы вольныя фарміраваць асабістыя шляхі па галерэях музея. Самы стандартны (але таксама доўгі і цікавы) палягае праз агляд усіх экспазіцый: беларускага мастацтва XII — XX стст., рускага мастацтва XVIII — пачатку XX ст., мастацтва Еўропы XVI — XX стст., мастацтва краін Усходу XIV — XX стст., выстаўкі мастака-прымітывіста Сяргея Каваля, армянскага мастака Фараона Мерзаяна, абстрактны жывапіс Анатоля Кузняцова «Пра зямлю і неба». Можна прайсці праз інтэрактыўную дарогу і наведаць «Начны лекторый», узброіцца ліхтаром і агледзець цёмныя галерэі, каб даведацца, як карціны кладуцца спаць, адшукаць вандроўную музычную кропку, паўдзельнічаць у квэсце ды шматлікіх творчых мерапрыемствах.

Не прамініце «Начны дазор» у зале гравюр Рэмбранта. Акрамя экскурсіі ў рэжыме нон-стоп па экспазіцыі з 69 арыгінальных афортаў XVII стагоддзя (уваход па асобным квітку) прапануюць майстар-клас па гравюры з выкарыстаннем сапраўднага друкаванага станка.

**3. Горад унутры музея ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў.**

Мастацтва мегаполіса захапіла Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў. «Горад унутры» — гэта экспазіцыя, дзе можна заблытацца ва ўнутраным і вонкавым. Мастацтва вуліцы перасягнула межы субкультуры і пацяху крочыць па залах музеяў, карцінных галерэй, арт-пляцовак.

У двары цэнтра прапануюць стварэнне графіці на планшэтах ад каманды *ZADELO*. Сам цэнтр ператорыцца ў пляцоўку для конкурсу скетчаў ад вулічных мастакоў, шматлікіх перфомансаў, бітмейкінгу ў хатніх умовах, майстар-класа па стварэнні арт-аб'ектаў са смецця, відэапраекцый работ мінскіх графіці-мастакоў, а таксама ў кіназалу, дзе адбудзецца дэманстрацыя відэа пра розныя віды вулічнага мастацтва. Разынкай імпрэзы стане інсталяцыя знакамітага нямецкага мастака, педагога ды куратара Мануэля Шрэдэра (Берлін), вядомага нам урбаністычнымі фотапраектамі.

**4. Святло знакамітага паэта і штодзённы лад жыцця сям'і Міцкевічаў — у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.**

Праграма мае назву «Святло ў вакне»: беларускі класік вельмі любіў працаваць уночы. Калі вуліцы горада ахоплівалі змрок і ва ўсіх дамах навокал клаліся спаць, у акне Якуба Коласа загараўся агеньчык. Суседзі ведалі: пакуль гарыць агеньчык, беларускую літаратуру чакаюць новыя годныя творы. На жаль, традыцыя запальваць святло ў доме Міцкевічаў згубілася: наведаць класіка прыходзяць удзень, і начныя дбанні перайшлі ў катэгорыю гарадскіх легенд.

Інтэрактыўная касцюміраваная экскурсія «Дзень у Коласа» дапаможа паглыбіцца ў побыт сям'і Міцкевічаў, пакажа пакоі дома-музея ізноў жывымі. Праграма дазволіць гасцям непасрэдна сустрэцца са знакамітым гаспадаром і яго дамашнімі не толькі праз тэатралізаваны выступ, але і ў кадрах кінахронікі: Якуб Колас паўстане перад гледачамі на відэа з архіваў музея. Гасцей дома Міцкевічаў чакае фуд-зона з беларускай ежай, бо якая ж гасціннасць без пачастункаў? Для моладзі падрыхтаваная фотазона і беларускамоўныя настольныя гульні, а таксама выступы гуртоў «*Re1ikt*» і «*NGe*». Самых маленькіх удзельнікаў імпрэзы чакаюць лялечныя прадстаўленні па матывах народных казак у літаратурнай апрацоўцы Якуба Коласа.

**5. «Код Купалы» расшыфроўваюць у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы**

Для Песняра сёлета падрыхтавалі віншаванне з юбілеем. Беларускі класік увасобіць прыклад для пераймання: будзь як Янка Купала, «Будзь ЯК!» — заклікаюць супрацоўнікі музея. Дзеля таго, каб лепш зразумець жыццёвы і літаратурны шлях творцы, можна будзе завітаць у госці да Песняра ды паразважаць над тым, за якія творчыя здабыткі Янка Купала мог атрымаць Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры.

Аматары творчасці паэта пройдуць пасвячэнне ў загадкавае таварыства філаматаў і філарэтаў, навучацца танчыць гістарычныя танцы, сарыентуюцца ў беларускай геральдыцы і нават выправяцца на Парнас.

**6. «Станцаваць» паэзію ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.**

«Танцуйма Багдановіча!» — заклікае наведнікаў Літаратурны музей Максіма Багдановіча. У танцы можна праявіць сябе, адпачыць ад працоўных будняў ды нават адшукаць новы сэнс у паэзіі славутага творцы. Падвор'е музея прапануе народныя гульні ды забавы разам з фальклорным калектывам «Калыханка». Выступ тэатра «Гістрыён», вясёлыя танцы з капэлай «На таку», танцавальныя выступленні і майстар-класы ад клуба «Квартал», майстар-класы па сярэднявечных танцах ад гурта «Дзівабор». У гонар Максіма Багдановіча падрыхтаваная спеўная праграма «Вянок для Максіма» ад фальклорных калектываў.

Як працяг славутых сустрэч у «Беларускай хатцы» — паэтычныя выступы Віктара Лупасіна, Георгія Барташа, Таццяны Светашовай, Дар'і Бялькевіч ды прэзентацыя кнігі Мікіты Найдзёнава «Развітанцы».

**7. Філасофская размова пра паэзію, крытыку, чытанне — на кухні Літаратурнага музея Петруся Броўкі.**

Госці імпрэзы патрапяць на так званы «кватэрнік», дзе ў савецкія часы ўсе маглі шчыра выказаць нават самае небяспечнае меркаванне, а таму знаходзіліся ў роўных умовах суразмоўцаў. Паразмаўляць на сустрэчы будзе з кім: на кухню музея запрошаныя Анатоль Івашчанка, Ганна Севярынец, Наста Кудасава, Альгерд Бахарэвіч, Алег Трусаў, Валерый Булгакаў ды іншыя таленавітыя беларускія творцы. Гэтым разам «кватэрнік» прысвечаны праблемам беларускай літаратуры. На паэтычным дыспуце «Час пераменаў» будуць разглядаць сучасную паэзію, актуальнасць класічных рытмаў ды стаўленне да крытыкаў; дыскусія «Канец кнігі? Як мы развучыліся чытаць» закране імідж кнігі і ўзровень чытача XXI стагоддзя. Самых сур'ёзных наведнікаў чакае палеміка «Моўная палітыка ў БССР. 1950 — 80-я гг.», падчас якой можна будзе абмеркаваць тэндэнцыю русіфікацыі і звязаныя з ёй праблемы, а таксама існаванне роднай мовы на сучасным этапе.

Зразумела, цяжка ўявіць вячоркі без спеваў напрыканцы сустрэчы, таму сардэчна запрашаем на «Бардаўскія песні на кухні». Да таго ж літаратурны музей Петруся Броўкі — адзін з нямногіх, дзе вырашылі прытрымлівацца менавіта начнога фармату імпрэзы. Каб ехаць дадому, трэба дачакацца, пакуль пачне хадзіць транспарт. Бавіць час дапаможа «Кінадбанне да першага трамвая», дзе пакажуць дыпломныя работы студэнтаў Усерасійскага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі.

**8. Званы вечар у «Лошыцкай сядзібе».**

Не проста мастацкая атмасфера, а сапраўдны свецкі раўт чакае ў музеі, дзе збяруцца музыкі, літаратары ды мастакі, як было пры жыцці апошніх гаспадароў Лошыцы Яўстафія і Ядзвігі Любанскіх.

Першым гасцей вечара сустрэне аканом. Ён распавядзе пра клопаты вялікага маёнтка: зразумела, утрымліваць панскую гаспадарку — нялёгкая справа. У сядзібу запросяць Клатыльда і Зафія Кеневічы, сёстры пані Ядзвігі. Дзяўчыны прадэманструюць бездакорнае валоданне этыкетам і правядуць гасцей па пакоях маёнтка, каб пазнаёміць нашых сучаснікаў з побытам шляхціч. У Белай зале гасцей чакае музычны салон для аматараў прыгожага мастацтва, у літаратурным салоне прагучыць паэзія XIX стагоддзя. У танцавальным салоне навучаць не толькі вядомаму вальсу, але і танцам пад дзіўнымі назвамі падэпацінёр, рэгтайм, ванстэп. Не абыдуць і папулярныя салонныя забавы мяжы XIX — XX стагоддзяў: бурымэ, скрабл ды шарады.

Загучаць беларускія песні, а таксама дударская і смыкавая музыка ад гурта «Талака», створанага на базе кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# ІМЕНАСЛОЎ СТАРАЖЫТНАСЦІ

**Сучасныя беларускія аўтары плённа працуюць у рэчышчы навукова-папулярнай літаратуры. Ажыўляючы далёкія постаці слаўнай беларускай гісторыі, пісьменнікі ўмела выкарыстоўваюць вобразна-выяўленчыя магчымасці ўласных імёнаў, якія з'яўляюцца каштоўным помнікам матэрыяльнай і духоўнай культуры. У анамастычных даследаваннях не раз заўважалася, што імёны маюць важнае значэнне не толькі як матэрыял мовы, але і як увасабленне культуры нацыі.**

## ЛЕЎ САПЕГА

Энцыклапедыяй старабеларускага іменаслову XVI — XVII стагоддзяў з поўным правам можна назваць гістарычны нарыс Зінаіды Дудзюк «Леў» (Мінск: «Літаратура і Мастацтва», 2011). У нарысе мы сустракаемся выключна з імёнамі рэальных гістарычных асобаў эпохі Льва Сапегі. У цэнтры твора — чалавек, чый унёсак у развіццё палітычнай, прававой і рэлігійнай культуры Вялікага Княства Літоўскага складана пераацаніць. Імя Сапегі — ***Леў*** — з'яўляецца загалоўкам твора, становячыся ключавым словам усяго літаратурнага тэксту. Імя героя ўтворана ад наймення звера, які з'яўляецца ў сусветнай культуры сімвалам мужнасці, вярхоўнай улады, высакародства, гонару, велікадушша і міласці. Сімвалічны сэнс імені славутага продка раскрываецца праз псіхалагічную характарыстыку, апісанне маральных рыс героя, яго ўчынкаў і дзеянняў: «*Трэба ў першую чаргу схіліць галаву і з глыбокай пашанай у голасе адзначыць* ***Льва*** *Сапегу, ваяводу віленскага, вялікага гетмана войска Вялікага Княства Літоўскага, гэтага* ***волата-Атланта****, які* ***ўтаймаваў шведскага льва*** *разам з усходнім заваёўнікам.* ***Леў*** *годна і мудра выконваў абавязкі перад сумленнем і перад Айчынай. Гэты высакародны* ***Леў*** *жыў дзеля Радзімы.* ***Колькі разоў ні пачынаў ён рыкаць, столькі ж разоў напалоханыя гэтым рыкам ворагі Айчыны кідаліся наўцёкі…***».

## ТАДЭВУШ КАСЦЮШКА

Нярэдка ў кантэксце навукова-папулярнага твора раскрываецца этымалогія антрапонімаў. Напрыклад, у кнізе «Касцюшкі-Сяхновіцкія: гісторыя старадаўняга роду» (Брэст: «Академия», 2006) пісьменнік-краязнаўца Анатоль Бензярук расказвае пра паходжанне прозвішча сям'і нацыянальнага героя Беларусі. Аўтар адзначае, што ўсе дакументы, складзеныя пры жыцці першага ўладара маёнтка Сяхновічы, пісара вялікага князя Літоўскага, называюць яго ***Костюшко***. Гэта памяншальная форма хрысціянскага імені ***Канстанцін***. Прадстаўнікі сярэдняга і дробнага баярства ў старажытасці іменаваліся менавіта такімі памяншальнымі формамі: ***Васко*** (замест Васіль), ***Гурко*** (замест Рыгор). Гэтыя формы ў XV — XVI стагоддзях лічыліся нарматыўнымі, зацверджанымі ў шматлікіх справаводчых паперах. Імёны прадстаўнікоў вышэйшага дваранства ўжываліся пераважна ў поўнай форме. «*Імя* ***Касцюшкі*** *Фёдаравічаператварылася ў сямейнае прозвішча, таму што з 15 студзеня 1515 года ён зрабіўся дваранінам гаспадарскім, выканаўцам даручэнняў вялікага князя. Да таго ж* ***Касцюшка*** *Фёдаравіч сумяшчаў пасады камянецкага суддзі і гараднічага. Апроч таго, у 1543 годзе ён быў вялікакняскім камісарам пры размеркаванні спрэчных земляў, а прыкладна ў той жа час (да 1549 года) удзельнічае ў размеркаванні каралеўскіх і шляхецкіх надзелаў каля Старога Сяла (Жабінкаўскі раён) на Берасцейшчыне*». Грамадская дзейнасць Касцюшкі Фёдаравіча стала ўзорам для яго нашчадкаў. Бліскучая кар'ера — узвышэнне звычайнага баярына ў фактычнага кіраўніка старажытнага горада Камянца — адыграла вызначальную ролю ў замацаванні імені ***Касцюшкі*** за яго нашчадкамі як прозвішча: «*Імя слыннага продка стала часткаю спадчыны, якая трывала замацавалася за радзімаю*».

## ІМЯ — СТВАРАЛЬНІК ЛЁСУ

У творах сучасных беларускіх пісьменнікаў адлюстравана архаічная мадэль свету, якая прадугледжвае тоеснасць імені і прыроды ягонага носьбіта. Нашы продкі верылі ў ***крэатыўную*** сутнасць іменавання. Паводле ўяўленняў старажытных славян, імя паказвала пэўныя ўласцівасці індывіда і прадвызначала яго жыццёвы шлях. Стваральная прырода называння праяўлялася ў функцыянаванні так званых імёнаў-пажаданняў, якімі нібыта накрэсліваўся лёс старажытных валадароў. Нездарма ў язычніцкую пару прадстаўнікі княскіх родаў насілі імёны-кампазіты, якія, згодна з традыцыяй ***імяслаўя***, накрэслівалі



Фота Кастуся Драбова.

***слаўны*** жыццёвы шлях магутных непераможных валадароў: ***Усяслаў, Ізяслаў, Мсціслаў, Прадслава, Звеніслава, Гардзіслава, Дабрадзея.***

Адзін з раздзелаў кнігі Уладзіміра Арлова «Таямніцы полацкай гісторыі» (Мінск: «Папуры», 2008) прысвечаны ***Усяславу Брачыславічу*** — «найславуцейшаму з полацкіх князёў», які ўвайшоў у гісторыю пад празваннем ***Чарадзей***. Пісьменнік актуалізуе этымалагічную семантыку празвання князя, імкнучыся пры тлумачэнні не адысці ад гістарычнай рэальнасці, захаваць дакладнасць фактаў, адлюстраваных у гістарычных крыніцах, і ў той жа час умела адцяніць названыя іменем і мянушкай дэталі ў створаным вобразе: «***Усяслаў Брачыславіч*** *празваны* ***Чарадзеем***, *заўважым, нездарма. Таямніца ахутвае ўжо яго прыход на свет. Як занатавана ў летапісе, маці нарадзіла Усяслава "от волхвования", гэта значыць, пры ўдзеле паганскіх чараўнікоў. На галаве немаўля мела загадкавае "язвено", што вешчуны наказалі маці завязаць, каб сын насіў яго да смерці. Можа, гэта была нейкая язва, а мо — вялікі радзімы знак, якім пазначае сваіх абраннікаў неба? Сучаснікі і нашчадкі верылі, што гэтага князя нябесныя сілы надзялілі вешчаю душою, што ён умеў перакінуцца не толькі ў шэрага ваўка, але і ў яснага сокала ці ў тура з залатымі рагамі*».

В. Чаропка ў кнізе «Імя ў летапісе» (Мінск, «Полымя», 1994) прадстаўляе цікавыя версіі паходжання імёнаў славутых полацкіх князёў. На яго думку, «*славянскім з'яўляецца імя* ***Рагнеды***. *Тут назіраем старажытны славянскі звычай (дарэчы, пашыраны і ў старажытнай Германіі) даваць дзецям імя, у якім гучала б для азначэння сваяцтва частка імя бацькоў. Так што імя княжны вытворчае ад імя* ***Рагвалода***. *Сімвалічнае значэнне апошняга імя магло ўказваць на тое, што яго носьбіт з'яўляецца* ***«валадаром рогу»***. *У паганстве рог быў сімвалам зямной урадлівасці, багацця. Калі ўлічыць гэта, дык імя* ***Рагвалод*** *можна растлумачыць як валадар багацця, багаты і шчодры чалавек*».

## САКРАЛЬНАЯ СУТНАСЦЬ ІМЕНІ Ў ХРЫСЦІЯНСТВЕ

На славянскіх землях з цягам часу ўкаранялася хрысціянская мадэль успрымання імені як «духоўнай субстанцыі, што ўздзейнічае на носьбіта, фарміруючы асаблівы псіхафізіялагічны склад, як сакральнай сутнасці, здольнай падпарадкоўваць, накіроўваць і забяспечваць дапамогу вышэйшых сіл» (І. Ратнікова «Имя собственное в разных типах сознания» // Русский язык и литература. — 2001. — № 1. — С. 104). Хрысціянскае ўспрыманне імені адлюстравана на старонках навукова-папулярных твораў. Так, У. Арлоў апавядае пра тое, што дачка славутага Усяслава Чарадзея Дабрадзея, прыняўшы хрысціянства, набыла імя ***Зоя*** — ад грэц. '***жыццё***' (паводле: С. Барыс «Як у нас клічуць? Беларускія імёны». Мінск, 2010. С. 60). Семантыка зараджанага станоўчай энергіяй імені адпавядае характару гераіні. Накрэсленая імем праграма жыцця была здзейснена дачкой славутага князя, якая ўвайшла ў гісторыю як знакамітая лекарка, што падарыла жыццё нават безнадзейным хворым.

## У МЯНУШКАХ — ГІСТОРЫЯ КНЯСКАГА РОДУ

Некаторыя манархі і прадстаўнікі славутых шляхетных родаў увайшлі ў гісторыю пад празваннямі-мянушкамі, што знайшло адлюстраванне ў анамастыконе навукова-папулярнай літаратуры. Напрыклад, у кнізе «Свята для сэрца: невялікія гісторыі для юных беларусаў» (Мінск: «Літаратура і Мастацтва», 2009) А. Бензярук распавядае, што прадстаўнікі славутага роду Радзівілаў мелі мянушкі Мікалай ***Руды*** і Мікалай ***Чорны***, якія характарызавалі знешнасць мужчын: «*Яны абодва насілі шырокія бароды, але ў аднаго яна была* ***рудога колеру***, *а ў другога —* ***чорнага***». У зборніку «Таямніцы Мірскага замка: падарожжа па сівых мурах з Адамам Міцкевічам» (Мінск: «Літаратура і Мастацтва», 2011) Анатоль Бутэвіч акрэсліваe гісторыі мянушак славутых Радзівілаў: «*Кажуць, што знакамітая мянушка* ***Сіротка*** *прыліпла да Мікалая Крыштофа Радзівіла з лёгкай рукі караля. Калі ў польскай сталіцы Кракаве пышна адзначалі шлюб караля Жыгімонта і Барбары Радзівіл, сярод гасцей быў стрыечны брат Барбары Мікалай Радзівіл Чорны. Бацькі ўзялі з сабой на вяселле двухгадовага Мікалая. Ён ціхенька спаў у сваім ложку. А калі прачнуўся, нікога побач не аказалася. Княжыч заплакаў. Тут і заўважыў яго кароль. Пачаў суцяшаць, казаў нешта ласкавае. Называў бедным* ***сіроткам***, *пакінутым усімі. Гэта ўпала ў вушы слугам, якія падхапілі пачутае слоўца. Так на ўсё жыццё і замацавалася за князем мянушка, якая стала часткай прозвішча*».

## ТАЯМНІЦЫ СТАРАЖЫТНАЙ ВЕРЫ

У свядомасці нашых продкаў, ды і сучаснікаў складаным чынам перапляталіся хрысціянская вера і язычніцтва. Таму ў аповедзе пра гісторыю Беларусі шырока выкарыстоўваюцца ***тэонімы*** — імёны язычніцкіх бостваў. Так, раскрываючы таямніцы старажытнай веры, Зінаіда Дудзюк шукае ключ да разумення матывацыі празванняў людзей (***антрапонімаў***) і назваў населеных пунктаў (***тапонімаў***), у якіх захавалася вера старажытных славян: «*Зрэшты, на Берасцейшчыне даволі пашыраныя прозвішчы* ***Велясевіч, Валасевіч, Волас, Валаско, Власюк, Волах, Валашанюк, Валошка, Валошчык, Валашчук, Волх,*** *што паказвае на магчымую прыналежнасць уласнікаў гэтых прозвішчаў да племя, якое пакланялася* ***Вялесу***. *Відавочна, што паходжанне беларускіх тапонімаў (горад* ***Вільня***, *рака* ***Вялля*** *і яе левы прыток* ***Вільня***) *звязана з пакланеннем Вялесу. Акрамя гэтага, па ўсёй Беларусі раскіданы назвы паселішчаў, якія таксама паходзяць ад імя бога* ***Вялеса (Воласа): Валасаўцы, Воласава, Валасовічы, Велясніца*** *і іншыя*» («Вяртанне забытага міфа», Мінск: «Беларусь», 2013). І хоць у сваіх разважаннях З. Дудзюк нярэдка падкрэслівае, што гэта яе асабістае бачанне праз «*інтуіцыю, праз адчуванне на генным узроўні тых ці іншых праяў беларускасці*», але нярэдка бывае так, што таленавітае мастацкае прадбачанне папярэднічае навуковаму абгрунтаванню.

У навукова-папулярных творах гістарычнай тэматыкі па-мастацку адлюстраваны не толькі іменаслоў старажытнасці, але і адчуванне старажытным чалавекам свету праз імя — неад'емны складнік асобы, які праграмуе лёс, абараняе чалавека ад злых сіл, аб'ядноўвае з сям'ёй, родам, племенем. Апошні прадстаўнік сярэбранага стагоддзя рускай філасофіі Аляксей Фёдаравіч Лосеў пісаў: «*Іменем і імёнамі пранізана ўся культура і ўсё чалавечае быццё. У слове і асабліва ў імені — усё наша культурнае багацце, назапашанае на працягу стагоддзяў*». Імя ўласнае — факт культуры, які ў многім вызначаецца духоўным досведам народа, гістарычнымі ўмовамі фарміравання этнасу. У кантэксце навукова-папулярных твораў, прысвечаных гісторыі Беларусі, раскрываецца багатая нацыянальна-культурная інфармацыя ўласных імёнаў.

**Святлана БУТ-ГУСАІМ,
кандыдат філалагічных навук**

# СМАЧНАГА ЧЫТАННЯ!




**«Смачна есці!» — кажа маці, і сняданак падаецца ў разы смачнейшым. «Смачнага сну!» — кажуць бацькі, і сняцца табе каляровыя і прыгожыя сны. А ёсць яшчэ такія рэдкія кнігі, перад якімі так і просяцца словы: «Смачнага чытання!» Менавіта такая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» — «Смачная кніга», аўтарка якой — паэтэса Аксана Спрынчан.**

Гэта прыгожая кніга вершаў, кожны з якіх звязаны са смачнай тэматыкай на любы густ — як пра стравы беларускай кухні, дранікі і верашчаку, так і вершыкі пра ласункі — шакаладкі, мармелад, марозіва… Усё тое, што любяць амаль усе дзеці, дый іх бацькі: *«Смачна есці шакаладку разам з мамай, разам з таткам»*.

Чытаючы гэтую кнігу, дзеці даведаюцца яшчэ і пра тое, што любяць іх малыя сябры — хамякі і вожыкі, рысі і вавёркі, жабкі, бабры і выдры, нават тукан і тыгр. А яшчэ пра тое, што расце ў гародзе. У раздзеле «Агародная хованка» аўтар вельмі ўдала, скарыстаўшы гульнявую форму, знаёміць малых чытачоў з (в)ядомымі дарамі: *«Хавае ў кветках бульба, каб не знайшла нас Люба. А там, дзе памідоры, ёсць хованка ад Доры...»*.

Малым дзеткам прыйдзецца даспадобы мілы вершык пра баговак: *«Баговачкі, баговачкі, крылатыя каровачкі, збірайцеся ў чародку, нясіце нам пагодку…»*. А чытаючы верш пра гарбату з мялісай, пэўна, захочацца пайсці на кухню і заварыць той самай духмянай гарбаты.

Зрэшты, усе вершы ў кнізе знітаваныя са смакатою, і з вялікай верагоднасцю яны выклічуць у малых чытачоў жаданне папрасіць у бацькоў смачны суп-булён, галубцы ці дранікі. А можа, яны й самі возьмуцца дапамагчы бацькам у гэтым. Бо немагчыма ўтрымацца, калі *«мама — беларуска, запякае смачна гуску. Колькі не насоліць сала — смакаты такой замала»*.

Сямейным стасункам надаецца асобная ўвага, і не толькі любові да маці. Пакуль маці гатуе, тата займаецца з дзецьмі: *«У мяне дзівосны тата — ён заўжды стварае свята. Нават калі вучыць вершы, іх чытаю яму першы»*. Дзеці, у сем'ях якіх адчуваецца любоў і клопат, растуць добрымі і шчаслівымі, як вясёлыя анёлкі: *«Наша любая дачушка нашаптала нам на вушка столькі слоў пяшчоты й ласкі, што ў душы квітнеюць краскі»*.

Прыемна, што кніга адметная не толькі зместам, але і афармленнем. Кожны верш, нават рыфмаваную гісторыю суправаджаюць прыгожыя ілюстрацыі. Гэтае хараство стварыла мастачка Вольга Максімовіч. А напрыканцы кнігі юных чытачоў і іх бацькоў чакаюць не толькі «смачныя вершы», але і «смачныя загадкі». Вядома ж, на кулінарную тэматыку.

Пасля прачытання кнігі насамрэч так і хочацца ўсёй сям'ёй пасядзець пры гарбаце з торцікам. А чытачам, якім пашчасліціць разгарнуць яе старонкі, толькі і застаецца пажадаць: «Смачнага чытання!»

**Алег ГРУШЭЦКІ**

# «ГРАМ ЧУЖОЙ КРЫТЫКІ»

**Апошнім часам здараецца так, што асоба пісьменніка і плён яго працы — кніга — жывуць нібы рознымі жыццямі. З аднаго боку, у сучаснай прасторы ўсёабдымных сацыяльных сетак кожны мае творчую пляцоўку і сваё кола чытачоў. Таму выхад папяровай кнігі — падзея больш сімвалічная, кшталту, «я не самотны, я кнігу маю»: прэзентацыі, інтэрв'ю, рэцэнзіі — як нагода расказаць пра аўтара. Шмат гавораць пра імя, асобу, яе густы і захапленні, і ўсё меней — пра саму кнігу як мастацкую з'яву.**




Умовы і формы развіцця літаратурнага працэсу змяняюцца, таму сапраўдным пісьменніцкім «пасведчаннем» можа служыць толькі талент. Ні наяўнасць сяброўскай корачкі творчага саюза, ні пералік выдадзеных кніг, ні розгалас у перыёдыцы не ёсць сінонімамі таленту. Але заўсёды лягчэй і хутчэй заўважаецца тое, што на паверхні: часам папулярнай становіцца кніга, якую па-сапраўднаму амаль ніхто і не чытаў, бо пра яе шмат гавораць, у тым ліку і сам аўтар, выкладаецца канцэпцыя, мастацкія прынцыпы, кароткі змест, зачытваюцца на прэзентацыях урыўкі... Адным словам, можна ўжо і не чытаць. Адсутнасць удумлівага чытача «разбэшчвае» гэтак жа, як адсутнасць уважлівага рэдактара.

*Ні наяўнасць сяброўскай корачкі творчага саюза, ні пералік выдадзеных кніг, ні розгалас у перыёдыцы не ёсць сінонімамі таленту.*

Калі кніга выйшла ў свет, значыць, аўтар гатовы да дыялогу з тым, хто ўбачыць вартасці і недахопы і зможа пагутарыць з ім менавіта пра творчасць, а не пра свае эмоцыі з нагоды сюжэта ці трапнага выразу. Вядома, у ідэале такім чалавекам мусіў стаць рэдактар — яшчэ да таго, як наклад кнігі падрыхтуецца да друку. На жаль, апошнім часам гэтак адбываецца не заўсёды: нават калі нейкае прозвішча пазначана на вокладцы ў якасці рэдактара, амаль з першых старонак становіцца відавочным, што рэдактара ў кнізе не было. Такая практыка становіцца ўсё больш і больш распаўсюджанай.

Цяжка адназначна сказаць, чаму. Залішняя самаўпэўненасць пісьменнікаў, асабліва пачаткоўцаў; недастаткова добрае веданне беларускай мовы (а нормы беларускай арфаграфіі, як гэта водзіцца з 1920-х, справа асабістага густу); паспешлівае імкненне стаць нарэшце аўтарам надрукаванай кнігі (у чым, бясспрэчна, выяўляецца творчая няспеласць); паблажлівае стаўленне старэйшых пісьменнікаў (якія часта лічаць, што маладых творцаў, незалежна ад узроўню таленту, варта падтрымліваць ужо толькі за тое, што яны пачалі пісаць па-беларуску)…

Тое, што сучасны беларускі пісьменнік, які больш упэўнена пачуваецца ў рускамоўнай плыні, пачынае пісаць па-беларуску, не робіць яго героем. Як і шчыра-шчымлівыя (без іроніі) прызнанні ў любові да радзімы і роднай мовы на старонках твора нікога не робяць асаблівым. Стварыць арыгінальны, яркі, запамінальны, глыбокі мастацкай думкай і стылёва зладжаны твор у сучасным свеце ўсемагчымых «пост-постаў» — вось што сапраўды варта ўвагі.

Дэбютная кніга маладой пісьменніцы Яніны Пінчук «Горад мрой» (Мінск, «Галіяфы», 2016, рэдактар Альгерд Бахарэвіч) анансаваная як «магічна-рэалістычныя апавяданні пра Мінск і не толькі». Гэта адразу прыцягвае ўвагу: не так ужо і многа ў сучаснай беларускай літаратуры рэальнай мінскай прасторы. І хаця ў кнізе багата магічна-ірэальнага, сталіца ўсё адно прысутнічае ў апавядальнай плыні ў многіх пазнавальных дэталях: утульныя кавярні, схаваныя ад шумнага праспекта, Палац прафсаюзаў, дзе гераіня танчыць сальса, Кальварыйскія і Вайсковыя могілкі, станцыі метро, трамвайныя прыпынкі, кнігарня «Вянок» і Траецкае прадмесце… І хаця захапленне адной з гераіняў сталінскай архітэктурай Мінска і Масквы здаецца дзіўнаватым (з увагі на малады ўзрост), заўвага адносна таго, што прыпынкі ў трамваі аб'яўляюць «голасам БССР-аўскага інтэлігента» сапраўды падаецца дасціпнай. Гэта рэалістычны бок, а магічны — у таемных кропках-пераходах са свету сучаснай Рэспублікі Беларусь у віртуальны свет Вялікага Княства Літоўскага, якое жыве сабе паўнавартасным дзяржаўным жыццём...

Можна было б пагутарыць пра магічны рэалізм як пра арыгінальную з'яву ў беларускай літаратуры, паблукаць разам з аўтарам па таямнічых нябачных сцежках пазачасавай прасторы, захапіцца цікавым сюжэтнымі хадамі, заглыбіцца ў вывучэнне народных абрадаў і чорнай магіі… Аднак бяда ў тым, што гэта толькі сюжэтна-кампазіцыйныя аскепкі рамана, які не адбыўся. Таму гаворку варта весці ў першую чаргу менавіта пра гэта.

*«Улада ўздыхнула: праклятая прага дасканаласці. Пракляты жорсткі суд, які чыніш над сабой кожную секунду і зрываешся, калі да гэтай непасільнай ношы дадаецца яшчэ хоць грам чужой крытыкі. Яны думаюць, што гэта наравістасць і самалюбства — хаця насамрэч гэта саманянавісць».* Так гучыць самахарактарыстыка адной з гераіняў, і выглядае яна ў творы, спрэс перасыпаным недарэчнымі памылкамі і русізмамі, прынамсі кантрасна. У адной з частак кнігі пад назвай «Мярзотная варажбітка» гераіня ў адказ на крытыку яе літаратурнага твора сцвярджае, што няма моды на стыль: ён можа быць толькі дрэнным ці добрым. Чаму гераіня, створаная фантазіяй аўтаркі, гэта разумее, а сама аўтарка — не?

У першую чаргу варта адзначыць дробязнасць сюжэта (апавядальны пажар разгараецца вакол жарсцяў, што зместам нагадваюць дзённік старшакласніцы: няма падзеі — многа рэфлексій) і стылістычную бездапаможнасць дыялогаў (вялікая колькасць лішніх, неабавязковых слоў). Яніна Пінчук, мабыць, спрабавала ўвасобіць слэнгавае маўленне сучаснай беларускамоўнай моладзі. Прынамсі, менавіта такое ўражанне складаецца ад дзіўнага змяшання лексем, чый шлях да літаратурнай нормы распачаўся зусім нядаўна, слоў, па якіх мы пазнаем паэзію першай трэці XX стагоддзя і русізмаў: *«ды ты мяне паражаеш!»*, *«не, ну ці мала»*, *«кузькіна маці!»*, *«ну, я чмурэю!»*, *«ах, ды, прысядзьце!»*, *«балакаць колькі заманецца»*.

*Тое, што сучасны беларускі пісьменнік, які больш упэўнена пачуваецца ў рускамоўнай плыні, пачынае пісаць па-беларуску, не робіць яго героем.*

Вядома, існаванне беларускамоўнага персанажа ў тэксце кнігі, які адлюстроўвае амаль цалкам рускамоўную рэчаіснасць, — справа няпростая, і пісьменніца па-рознаму да гэтага падыходзіць. Але папросту перадаваць рускія сінтаксічныя канструкцыі беларускім правапісам — наўрад ці добрая ідэя: «юнак разгублена выдаліўся»; «выраблялі непасрэдныя дзеянні»; «пераглянуліся з вельмі ачмурэлым і зачараваным выглядам»; «тут вынікала быць вельмі асцярожным»; «іспытвалі цяжкасці»; «пад нейкай падставай»; «захопленае дачыненне»; «слушны прафесіянал»; «становішча спраў»; «цяплыня… распасціралася некалькі далей за належнае»… Прапаноўваць чытачу такую «недагледжаную» кнігу — значыць проста не мець да яго павагі.

Дэбютная кніга, вядома, далёка не заўсёды прадвызначае творчы шлях аўтара. Але дакладна сведчыць пра яго творчы патэнцыял, робіцца своеасаблівай візітоўкай. Як пісаў некалі Леанід Галубовіч у «Зацемках з левай кішэні», *«фанабэрся тады, калі пішаш, а не пасля таго, як напісаў. Пасля таго — ты ўжо і так відзён»*. Чалавеку, які сапраўды ўважліва прачытаў кнігу Яніны Пінчук «Горад мрой», відаць, што маладая пісьменніца паспяшалася: цікавая мастацкая задума стала ахвярай няспеласці стылю.

**Жана КАПУСТА**

# АЛХІМІЯ НАКАНАВАННЯ

## ў рамане Людмілы Рублеўскай «Дагератып»

**Ці сапраўды аўтарскае вызначэнне жанру ўплывае на ўспрыманне мастацкага тэксту? Міжволі задумваешся пра гэта, калі бачыш пад загалоўкам твора, напісанага ў пачатку XXI стагоддзя, пазнаку «дэкадансны раман». Менавіта так пазіцыянуецца «Дагератып» Людмілы Рублеўскай, выдадзены асобнай кнігай у 2017 годзе ў выдавецтве А. Янушкевіча.**

У філалагічных колах аўтарскае вызначэнне ўспрымаецца скептычна, нездарма і ў водгуках часта гучыць «гістарычна-прыгодніцкі раман». Час дзеяння — канец XIX стагоддзя, уборы змрочных колераў, чорныя валасы, фотаздымкі памерлых людзей (славутае постмортэ), шпацыры па могілках, забойствы, гвалт, любоў да зброі і невылечныя спадчынныя хваробы (лікантропія)… Усё гэта, безумоўна, стварае пэўную атмасферу, але ці робіць раман дэкадансным? У лепшым выпадку, «Дагератып» можна назваць «мастацкім дыялогам з дэкадансным раманам» (паводле В. Бароўкі). А гэта значыць, што зусім не ў эпатажным азначэнні варта шукаць ключ да мастацкай задумы.

Раман мае адмысловую структуру: Кніга знешняга кола (дзеянне адбываецца ў сучаснасці) уключае ў сябе Кнігу ўнутранага кола (час дзеяння — 1893 год). Зрэшты, для прыхільнікаў творчасці Л. Рублеўскай гэта не навіна, як і вобразы галоўных герояў у Кнізе знешняга кола. Яна — сціплая, нерашучая дзяўчына, свабодная ад стэрэатыпаў, абыякавая да законаў моды і макіяжу (мама ў дзяцінстве казала «не ад гэтага свету»), і Ён — прыгожы, дужы, смелы і высакародны, але без гармоніі ў душы і на няправільным шляху. Людміла Рублеўская звяртаецца да не раз ужо апрабаванай у сваіх празаічных творах кампазіцыйна-мастацкай схемы: паралелізм розных часавых пластоў, сімвалічнае перакрыжаванне лёсаў продкаў і нашчадкаў. У кантэксце творчай эвалюцыі пісьменніцы гэта, бадай, успрымаецца як пэўны недахоп. Хаця майстэрства ствараць складаныя шматузроўневыя сюжэты застаецца бясспрэчным.

Завяршаецца раман Патаемнай кнігай — своеасаблівай споведдзю графа Радаслава Каганецкага, які «не хацеў паміраць у дваццаць пяць ці трыццаць з прыгожым лозунгам на разбітых вуснах», а яго роспачнае пытанне ў будучыню «Ці будзе гэтая зямля калісьці да нас ласкавай?» застаецца без адказу.

Новыя тэмы пісьменніца асвойвала ва «ўнутраным коле»: дачка сасланага ў Сібір паўстанца Багуслава Кленчыц і хворы на лікантропію нашчадак старажытнага графскага роду Шымон Каганецкі сталі ахвярамі падману блізкіх ім людзей: «…яны былі проста з тых заблукалых дзяцей гэтай зямлі, якія не веда-юць, хто яны, і вераць тым, каму не варта. Бо так спакон веку тут рабілася гісторыя». Вызваленне ад няпраўдзівых, навязаных іншымі людзьмі вобразаў сябе мае ў рамане два ўзроўні: знешне-сюжэтны (раскрыццё таямніцы) і алегарычны (усведамленне магчымасці свабоднага выбару свайго шляху).




Умела пабудаваны, прадуманы да дробязяў сюжэт — займальны, захапляльны. У гэтым сэнсе нават кінематаграфічны, дарэчы, на такую асаблівасць сюжэтаў, створаных Л. Рублеўскай, ужо не раз звярталася ўвага. «Знешняе» і «ўнутранае» колы звязваюцца паміж сабой дзённікам Багуславы Кленчыц (прабабкі галоўнага героя Гальяша Масевіча), які яе праўнук Гальяш і Серафіма чытаюць разам. Праўда, добра перададзены ў Кнізе ўнутранага кола каларыт часам замінаюць адчуць занадта сучасныя сінтаксічныя канструкцыі ў дыялогах.

«Падступна» заваблівaючы чытача ў глыбіні апавядальных лабірынтаў, пісьменніца нязменна звяртаецца да асвятлення праблем беларускай гісторыі, ментальнасці і культуры, нібы нагадваючы, дзеля чаго ўсё гэта насамрэч стваралася. Для гэтага выкарыстоўваюцца звычайна спрэчкі і дыспуты, калі героі, кожны на свой лад, спрабуюць стварыць фармулёўкі беларускай нацыянальнай ідэі. «Гасподзь не хоча, каб нейкі род знікаў. У кожным родзе, у кожным народзе закладзены ахоўны код: мова, вера, традыцыі, характар…» — кажа граф Шымон Каганецкі. І дадае: «Тут было скрыжаванне культур, кожнае мястэчка — гэта царква, касцёл, сінагога, мячэць ды яшчэ і кальвінісцкі збор… Тут змешваліся розная кроў, розная вера, сустракаліся візантыйская дэспатыя і еўрапейскае вальнадумства… У гэтай алхіміі не магло не выплавіцца нечага адметнага, непаўторнага…». Магчыма, гэта гучыць занадта пафасна, але тут персанаж рамана выступае з правакацыйнымі высновамі: прыняць нашае «жыццё на скрыжаванні» не як праклён, а як скарб.

А вось у Кнізе знешняга кола з вуснаў галоўнай гераіні Серафімы злятае іншае нязвычнае прызнанне: «Родны кут, родны кут… Ды ў мяне ўражанне, што ў беларусаў спакон веку ў крыві іншае — "зваліць" з таго куточка…». Серафіма мае на ўвазе і імкненне моладзі з'язджаць са сваіх вёсак і мястэчак па навуку ў сталіцу, і імкненне з'язджаць за мяжу — у абодвух выпадках з цвёрдым намерам не вяртацца. Тут яе словы перагукаюцца з разважаннямі графа Каганецкага (які, дарэчы, мае паспяховую навуковую кар'еру ў Вене) пра тое, што беларусы шчодра дораць свае таленты розным краінам і народам, толькі не сваёй радзіме.

Калі ж не займацца самападманам, то сапраўды варта прызнаць, што класічныя радкі пра родны кут, які так мілы сэрцу, ужо мала ў каго з прадстаўнікоў маладога пакалення выклікаюць замілаванне. Магчыма, толькі такім чынам — шляхам выкрыцця, хай сабе і цынічнага, праўды жыццёвай, перад якой праўда паэтычная выглядае толькі хісткай ілюзіяй, калі ўвогуле не прафанацыяй, і магчыма прабіць груваcткі мур прапісных ісцін.

Услед за гэтым Л. Рублеўская закранае і яшчэ адну праблему: абсалютная «сталіцацэнтрычнасць» мыслення сучаснай беларускай моладзі, калі жаданне звацца мінчуком вызначае біяграфію. Серафіма прызнаецца: «Для горада N у мяне адзін варыянт падзеяў: сталіца — гэта супер, там усё добра, і інакш быць не можа. Нават калі мне давядзецца варыць на абед уласныя чаравікі, не вярнуся ў засень запалкавай фабрыкі». Серафіма з'язджае ў Мінск, Гальяш мерыцца з'ехаць у Амерыку, а ўсё таму, што не «Мой родны кут! Як ты мне мілы!» (як у Коласа), а «нелюбімая намі і страшная» родная зямля (як у Караткевіча).

Дарэчы, у рамане, дзе, паводле слоў пісьменніцы, свая геаграфія і супадзенняў з рэальнай картай Беларусі шукаць няварта, у некалькіх месцах асвойваецца мастацкая прастора караткевічаўскай прозы як сучасная героям Кнігі ўнутранага кола (напрыклад, Балотныя Яліны, а сюжэт «Дзікага палявання караля Стаха» пераказваецца адным з герояў як вядомы яму выпадак).

Дагератып — правобраз сучаснага фотаздымка, тонкая срэбная пласцінка з вывявай. У рамане — гэта сувязь гераіні з мінулым і сімвал помсты за зняважанае дзяцінства і юнацтва. Помсты, ад якой яна ўрэшце адмаўляецца, калі знаходзіць іншы сэнс — у каханні. Кожны з нас мае ў душы свой «дагератып», звязаны выключна з асабістым лёсам. І кожны неабыякавы да беларускай культуры сучаснік мае такі сімвалічны «нацыянальны» дагератып, і вывява на ўсіх розная, а праўда адна: срэбная пласцінка цямнее ад часу, вывява пакрысе блякне і сціраецца. Мы больш фантазіруем, чым бачым. Героі рамана Людмілы Рублеўскай, бясспрэчна, фантазія, але ў іх словах часта больш праўды, чым у тым, што мы «расчытваем» у нашай штодзённасці.

**Жана КАПУСТА**

# Асалода жывой вады

**У кнізе Таццяны Мушынскай «Сад маіх успамінаў» (Мінск, выдавецтва «Чатыры чвэрці», 2016) сабраныя дакументальная аповесць, паэзія, тэксты песень і рамансаў, падарожныя нататкі. Творы, розныя паводле жанру, зместу і часу напісання, аб'яднаныя адным — павагай да спадчыны і адданасцю творчай працы.**

«Сад маіх успамінаў» — у гэтай назве ўсё сімвалічна. Успаміны, якія сапраўды «растуць» і даюць шчодры «ўраджай» цягам усяго жыцця — ураджай цяпла, досведу, мудрасці, радасці, а часам і светлай тугі.

У дакументальнай аповесці, што дала назву кнізе, Т. Мушынская распавядае пра сваіх продкаў: прабабуль-прадзедаў, імёны і постаці якіх не захавалі фотаздымкі, а таму яна імкнецца «захаваць іх у слове», і бабулю Марыю і дзеда Фёдара. Варта адзначыць, што ўспаміны аўтаркі сягаюць далей за складанне сямейнага альбома. Т. Мушынская знаёміць сучасных мінчукоў са сталіцай, якой яны ўжо ніколі не бачылі, — вёскай Грушаўкай, наваколлем губернскага Мінска. Гэтак жа, як і побыт і лад мыслення бабулі Марыі Іванаўны, выкладзеныя пісьменніцай у дакументальнай аповесці, — не толькі прыватная сямейная гісторыя, а адлюстраванне светапогляду некалькіх пакаленняў беларусаў. Т. Мушынская нібы запрашае *«гарадскіх дзяцей і падлеткаў, якія вывучаюць мову па кнігах, творах літаратуры, а не ў жывым натуральным моўным асяроддзі»*, у свет аўтэнтыкі. Скрушныя эмоцыі выклікаюць параўнанні пісьменніцы штучна вывучанай мовы са смакам дыстыляванай вады: *«нібыта і вада, нібыта і празрыстая, нібыта і смагу наталяе… А не калодзежная, не крынічная. Смаку сапраўднага — няма…»*. Найбольшая ж бяда ў тым, што многія творы сучаснай літаратуры створаны пакаленнем, якое не магло адчуваць «недыстыляваны» смак жывой народнай мовы, і ўслед за ім прыходзіць наступнае пакаленне, якое навучаецца беларускай мове па іх кнігах…

Шмат распавядае Т. Мушынская і пра людзей музычнага творчага асяроддзя: кампазітараў, спевакоў, артыстаў… Трапныя назіранні з добрай доляй гумару, што перадаўся, мабыць, у спадчыну ад краўчыхі бабулі Марыі. Аднак уздымаюцца і сур'ёзныя пытанні: *«чаму адзін знаходзіць шчасце рэальна-зямное, а другі толькі летуценна-творчае? Першы варыянт грэе душу самому чалавеку і ягонай сям'і, другі прыносіць шчасце многім. А які шлях павінна выбраць жанчына, каб адчуваць гармонію з сабою і навакольным светам. І ці можна гэтыя шляхі — асабісты і творчы — спалучыць?»*. Адразу прыходзіць на памяць твор Алены Брава «Крупнік для музы», у якім даецца адназначны адказ на гэтае пытанне: не, спалучыць асабісты і творчы шляхі так, каб ва ўсім была гармонія і паўната самарэалізацыі, немагчыма.

Мабыць, паэтычны складнік кнігі (вершы, паэма, рамансы, песні) — своеасаблівая спробы пошуку гармоніі і раўнавагі, калі не ў свеце рэальнасці, то, прынамсі, у свеце псіхалагічна-духоўным: «Ратуюся ўласнымі вершамі…». Як любая жанчына творчай прафесіі жыве ўвесь час на ростанях, так лірычная гераіня Т. Мушынскай — паміж словам і музыкай. Нездарма і нізка вершаў называецца «Канцэрт для фартэпіяна і дажджу», дзе ў адну мелодыю зліваюцца радкі, ноты і наваколле. Менавіта так успрымае свет гераіня:

*Сонца пазірае з-за хмар.*
*Самога сонца не відаць,*
*Відаць толькі ягоныя промні,*
*Подобныя на струны*
*Велізарнай чароўнай арфы,*
*Якія нацягнуты*
*Паміж небам і зямлёй.*
*І на гэтых струна-промнях*
*Летні дожджык весела й гарэзна*
*Іграе сваю шчаслівую мелодыю.*




Музычныя алюзіі — амаль у кожным радку Т. Мушынскай. Магчыма, менавіта «музычнасцю» нават тых вершаў, якія не з'яўляюцца тэкстамі песень, тлумачыцца і іншая адметнасць: эмоцыі лірычнай гераіні розныя, але нават у выяўленні болю — не адчай безвыходнасці, а пяшчота, замілаванне, як ад прыгожай тужлівай мелодыі.

**Наталля НАРУТОВІЧ**

## Аліна ЛЕГАСТАЕВА



***

Ёсць дом.
Яго не стане.
Была радасць.
Павянчалася з бядой.
Выраслі дзеці —
Адляцелі, як птахі.
Адыдзе каханне
І нават надзея
Памрэ.
А з ёй і я.
Дык што ёсць жыццё?

Хваля?
Успышка імгнення?
Магнітнае вылучэнне?
Плазмоід?
Ці толькі невядомая,
Нявылучаная часцінка
У ледзяным космасе,
Што ляціць у бясконцасць,
І гэта наша душа?

***

Расла на памежжы
Краін і стагоддзяў.
У часе не ў лепшым
Ад самых народзін.
Дзіця ліхалецця,
Спазнаўшае голад,
Не выдалі смерці
Малітвы анёлаў.
Як лісцік асіны,
Далёка ад дому,
Гнаў вецер чужынны
І звычкі, і мову.
І слоўца матулі,
Купалы і Броўкі
Ніколі не чулі
Сябры і сяброўкі.
Хто полькай лічыў,
Хто жмудзінкай,
Хто рускай,
Вось толькі ніхто
І ні ў чым
Бе-ла-рус-кай.
Дык, можа, хоць вершам,
Душы пастаянствам
Урэшце пацверджу
Сваё грамадзянства.

***

Там, дзе хата была,
Лоз высокіх кустоўе.
Паглынула зямля
Гаваркое вяскоўе.

Дзесьці ў свеце сыны,
У замужжы і дочкі.
А бацькі паляглі
На кладах недалёчкіх.

Заруйноўвае час:
І падзеі, і страты.
Застаюцца ад нас
Дзве праз рысачку даты.

А ў кароценькай ёй,
Як у беглым імгненні,
Шчасце побач з бядой
Праз усе пакаленні.

***

Даўно няма матулі,
А дом стаіць, жыве.
Тут споміны заснулі,
Як шолахі ў траве.

І ў спадзяваннях рэчы
Яшчэ тлумачаць сны,
Што вернуцца з далечы
Дамоў гаспадары.

І ў цішыні сасмяглай
Зноў комін загудзіць.
І на патэльні з салам
Яечня засквірчыць.

І разам стане цёпла,
Як і было раней.
Нябёсаў сінь у вокнах,
Бяседа пры стале.

Таму сюды і еду,
Пакойчык прыбіраць.
К сняданню ці к абеду
Гасцей буду чакаць.

***

### Клён і калодзеж

Пры калодзежы клён,
Як мінулага помнік.
Шмат чаго бачыў ён
У нястомным бяссонні.

Прыхадзілі сюды
І зімою, і летам
Па вядзерца вады
І сусед, і суседка.

Дазнаваліся тут
Пра жыццёвыя справы —
Хто раўнуе жану,
Хто спакусны да славы,

Хто на споведзь хадзіў,
Хто з гарэлкай у сваты
І хто ў пуні спачыў,
Не дайшоўшы да хаты.

Слухаў гутаркі клён
І не мог надзівіцца.
Ліўся слоў пераззвон,
Што з вядзерца вадзіца.

Адгулі, адплылі
Жарты, смех і хаўтуры.
Іх снягі замялі
Пад платы, бы ў пячоры.

А калодзеж і клён
Спяць у ціхай спатолі.
Штось бармочуць скрозь сон
Ды не скажуць ніколі.

***

### Падарожжа

У дарозе лёгка думаць…
Стужкай сцелецца шаша.
Веснавым зялёным шумам
Напаўняецца душа.

То раўніна, то пагорак,
То балоцістая тонь.
Хутка набірае скорасць
Падкаваны гумай конь.

Вёрстаў бег, віры імгненняў,
Краявідаў берагі
Закалыцуць да збавення
Ад самоты і тугі.

Слова. Рыфма. Думка. Мэта.
Звонкасць стромкага радка.
Падарожжа для паэта,
Як нектар для матылька.



Фота Кастуся Дробава.

## Уладзімір СЦЯПАН



### Тры радкі

***

Іду праспектам,
чарвякоў абмінаю...
Красавіцкі дождж.

***

Як хутка бягуць
у пральнай машыне дзве
пары красовак…

***

Радуе водар
падсмажанага хлеба...
Дажджысты ранак.

***

Першы цёплы дзень.
Нейкая муха, а так
за жыццё б’ецца...

***

На шэрай шыбе
зрабіўся брудна́й кропляй
сонечны туман.

***

Па-вясковаму
пахне вячэрні праспект
варанай бульбай.

***

Вясна-вясна...
Бронзавы помнік паэту —
першым зазеляneў.

***

Вясновы туман —
навобмацак, і на смак,
як бярозавік.

***

На пераходзе
падлетак на ровары
балансуе. Бог!..

***

Стары сабака
з бліскучай лужыны п’е
учарашні дождж.

***

Афіцыянтка,
не змятай са століка
вішань пялёсткі….

***

У вокнах школы
плылі аблокі. Дзеці
праз іх глядзелі.

***

На банкамаце
чужы парасон ляжыць...
Згадваю пін-код.

***

Такі светлы дзень...
Ціха засыпае снег
Пустыя гнёзды….

***

За тлумным Менскам...
Пад шэрым небам, наўсцяж —
Белая зямля.

***

З паштовай скрыні
Выпала ў рукі пёрка —
Лёгкае, як дым.

***

Падняў са снегу
мёрзлую арабіну —
быццам багоўку.

***

На чыстай сцежцы
леташні танцуе ліст.
Вясновы вецер.

***

Быццам са свечкай,
са звычайным алоўкам
стаю прад Табой.

***

Двор. Вецер і снег...
А ў зацішку галубы
гучна вуркочуць.

***

Жыцця не хопіць,
расказаць... Пра малую
раку — Вушачку.

# ПАМІЖ СМУТКАМ І НАДЗЕЯЙ



Васіль ГІГЕВІЧ

## ЛЯЛЕЧКА

Пры нараджэнні бацькі назвалі яе Ляляй. Так у метрыках запісалі. Пазней, калі пайшла ў школу, чамусьці ўсе называлі Лялечкай.

Вучылася ў школе, у інстытуце, — як і многія, у маладосці сербанула цяжкасцей: хоць і гарадская, збірала ягады, гандлявала. Круцілася. Маці хварэла на дыябет — разлічваць даводзілася на сябе.

Пагрымлівала бураю «перабудова», зачапіла і Лялечку.

Тварам і постаццю Лялечку Бог не пакрыўдзіў: акруглая, але не поўная; шчокі, вочы, кароткі носік — усё драбнаватае і зграбнае, хоць і была высокая ростам. Да яе цягнуліся і хлопцы, і мужчыны, адчуваючы жаноцкасць і пяшчоту.

У маладосці, пакуль не пачала ставіцца на свае ногі, калі на рынку круцілася, Лялечка падгульвала, як сама прызнавалася, за шакаладку… Гледзячы на яе чысцюткі тварык, не верылася, не было на ім ніякай распусты.

Лялечка шмат чытала спецыфічнай літаратуры — пра астрал, пераход душы ў іншы свет. Пасля інстытута пайшла працаваць на рынак разам з аднагодкам, які навучыў яе весці бізнес. На пачатку дзевяностых напарнік загінуў. Як і чаму, Лялечка не казала. Давялося весці справы адной.

Памалу-патроху складвалася ўражанне, што «перабудова» і задумвалася для такіх актыўных і хвацкіх, як Лялечка.

Яна прыкупіла кватэру. Займела — а як жа без гэтага — мужа Пецю, паслухмянага і ціхага. Цяпер, калі Лялечка вярталася дадому, усё было ў парадку: баршчы і катлеты — гарачыя, на балконе сушылася вымытая бялізна, па прыбраным пакоі тупацеў віславухі Джэк.

Займацца толькі бізнесам Ляля не думала. Штолета ездзіла ў турпаездкі, плавала на байдарцы, спускаючыся па рэках. Тыдзень-другі жыла з мужам у палатцы на высокім баравым беразе возера. Пеця лавіў рыбу, а яна каталася на веласіпедзе па асфальтаваных дарожках вакол возера. Любата! Зімой Ляля рэгулярна хадзіла ў саўну і на пазнавальныя семінары, якія за грошы арганізоўвалі разумныя маскоўскія лектары.

Так сталася, што паслухмяны муж ёй абрыдзеў. Падала заяву на развод. Пачаліся суды. Жанчына, калі нечага захоча, абавязкова даб'ецца.

Праз слёзы, скандалы схуднелы муж быў выпісаны з двухпакаёўкі. Ляля засталася з Джэкам, якога давялося выгульваць самой. Цяпер яна ездзіла на веласіпедзе па гарадскім парку. Побач, павільваючы хвастом, з ашыйнікам і павадком бегаў Джэк.

Ляля, навучаная жыццём, пры першым позірку, пры першых словах мужчыны прыкідвала: ці падыдзе як муж?

Знаёмствы былі розныя. З'явіўся інтэрнэт. Ляля вяла актыўную перапіску. Сустракалася. Бывала, што і сыходзілася.

Другім яе мужам стаў Эдзік. Ён быў электрыкам, меў машыну, марыў пазнаёміцца з самастойнай жанчынай.

Кожны раз, калі ў Лялі здаралася новае знаёмства з мужчынам, яна страчвала розум. Вось і цяпер закахалася ў Эдзіка, але ў кватэру не прапісала. А праз некаторы час даведалася, што ў Эдзіка ёсць жонка, з якой ён яшчэ не быў разведзены, і дваццацігадовая дачка-гультайка. Так і блытаўся ён паміж сям'ёй і Ляляй. Ці трэба ёй тое было?

Новым яе знаёмым стаў амерыканскі бізнесмен. Куды лепш!

З амерыканцам Ляля пазнаёмілася праз інтэрнэт. Пры сустрэчы ў Мінску ён нават падарыў жанчыне пярсцёнак.

Амерыканец прыехаў у Маскву ў камандзіроўку, а быў родам з Харкава. Лялю ўсцешыла, што ён, пражыўшы да сарака гадоў, ні разу не быў жанаты.

Для больш блізкага знаёмства амерыканец запрасіў Лялю з'ездзіць у Маскву. Прыхапіўшы з сабой чатыры сотні «зялёных», Ляля паехала, балазе, што і тут шчасце падваліла: выйграла грын-карту.

І сапраўды, усё было добра: і гатэль, і рэстараны, і танцы, і салодкія пацалункі, і словы амерыканца: «Лялечка, мы будзем разам, і грошы ў нас будуць агульныя…»

Праз тры дні развіталіся. Бізнесмен-амерыканец пакляўся: калі Ляля прыедзе ў Амерыку, яны абавязкова аформяць шлюб і ён уладкуе яе ў сваю фірму. У Мінск Ляля вярталася хоць і без грошай, але з марай: ляцець па новае шчасце ў Амерыку.

Бізнес… Які тут бізнес, калі Амерыка на гарызонце!

Перад адлётам Ляля кватэру не прадала, хоць амерыканец і ўгаворваў прадаць, каб на новым месцы маглі хутчэй раскруціцца. Пра што яна думала, на што спадзявалася, калі мчала морам-акіянам, не ведаючы англійскай мовы?

У аэрапорце, калі Ляля пазваніла амерыканцу, які чамусьці не сустракаў яе, пачула ад яго: «Ты кватэру і офіс прадала?» Больш жанчына яго не чула і не бачыла.

У Амерыцы жыла замужняя сяброўка. У сям'і было трое дзяцей, і Лялі прапанавалі працу: даглядаць іх.

Пачалося новае — замежнае — жыццё…

Аднойчы Ляля зразумела, што тут яна чужая. Не ведаючы мовы, куды магла падацца? Толькі да сяброўкі з яе чарнаскурым мужам, які пачаў заляцацца да Лялі.

Праз паўгода схуднелая Ляля вярнулася на радзіму. Зноў разгарнула бізнес.

Нядаўна яна званіла. Слёзы, адчай. Новы муж паехаў на Валдай без яе. І што ёй рабіць, калі наперадзе — старасць і адзінота…

## ГАНДЛЯРКА

Яна сярэдняга росту, цела — па-мужчынску вуглаватае. Прыгледзішся бліжэй — не азызлая, не распаўнелая, як гэта бывае з жанчынамі пасля сарака пяці. Дый галава ў яе велікаватая для жанчыны. Бульбяністы нос, чырвоныя шчокі, пульхныя шырокія вусны — усё нейкае выпуклае, цыганіста-чарнявае. Здаецца, яна ні разу не клала на твар фарбы, — ні на вусны, ні на вейкі. Вочы велікаватыя, не чорныя, з нейкім блакітным адлівам. Кажуць, такія бываюць у ведзьмаў.

Не ведаю, не бяруся сцвярджаць, можа, і так…

Ходзіць хутка, рашуча, па-мужчынску размахваючы рукамі. Гэтак жа хутка балаболіць. Але голас па-жаночы мяккі, цёплы, калі ў настроі — хочацца слухаць.

Разззлуецца — сыплецца лаянка.

— Што зробіш, калі зараз такое жыццё. Даводзіць — не толькі мацюкацца пачнеш…

І тут жа на ўвесь рынак:

— Жэнька-а, ты дзе падзеўся, паразіт?!

Гэтак некалі ў вёсках прыцемкам маці клікалі неслухаў дахаты.

Аднекуль з натоўпу, які шпацыруе і вірыць ля кантэйнера, выпырхвае Жэнька-паразіт.

«Паразіту» даўно за трыццаць. Ён добры і паслухмяны работнік. Бяда толькі ў тым, што, як і іншыя, часцяком бывае нападпітку, мо таму ў яго нейкі вінаваты выгляд. І яшчэ няма пярэдняга зуба. Але ж гэта невялікая бяда, праўда?

Куртка, штанцы, зімой у мароз — мужчынская аблавушка, чаравікі на цёплай тоўстай падэшве, — як і большасць рыначнікаў, гандлярка апранаецца па-рабочаму. Некалькі разоў бачылі яе ля кантэйнераў у даражэзным чорным бліскучым футры, у чорных ботах з доўгімі, да калена, халявамі. Тады яна выглядала сярод рабацяг-рыначнікаў белай варонай…

Неяк дзіўна ў ёй усё сплялося: рэзкасць, вуглаватасць, мацюкі з лаянкай і тут жа — адкрытасць бліскучых вачэй, мяккая, амаль сарамлівая ўсмешка.

Яе бацька дагестанец, мо адсюль і ўсё астатняе…

Зімой казала:

— Мне мужчыны не трэба. Пасля сарака якія любошчы!.. Лухта гэта ўсё…

Але вясной, падлячыўшыся ў санаторыі, а потым пазагараўшы на турэцкім узбярэжжы, яна памякчэла, пачала часцей усміхацца, і калі гаворка заходзіла пра любошчы, усміхалася шырокай добрай усмешкаю, і бачна было, што, нягледзячы на крыкі ды лаянку, яна чалавек добры і ласкавы. І цяпер ужо не цьфукала злосна.

Седзячы за сталом, пачала гаворку, як незнаёмыя людзі ў вагоне цягніка:

— Я вырасла ў вёсцы. І грады палола, і карову даіла, і ягады збірала. Бацькі мае былі камуністамі, ездзілі па вёсках, а мяне гадавала бабуля, змалку да работы прывучала. Разумная была… Збіраецца ў ягады — тры вядры бярэ, на мяне пазірае і гаруе: «Хто ж мне паможа ягады дадому прынесці?» Я мігам да яе. Памочніца…

Бабуля адна век дажывала. Не гуляла. Акуратная была. І ў піцьдзясят, і ў семдзесят гладдзю вышывала. Людзі да яе ішлі адусюль, заказы рабілі. Верніцай была. Малілася. Не напаказ. Не скажу, што часта ў царкву хадзіла, не — унутры Бога насіла. Яна і мяне да Бога прывучала.

Можа, таму так шмат пражыла… Усяго ёй хапіла: і голаду, і ўцёкаў ва Украіну, і вяртання назад з дзецьмі на руках. Помню, яна часта казала: «Дзетачка, нічога не бойся, на ўсё воля боская».

Калі вайна была, людзі сказалі, што яе мужчына знаходзіцца на чыгуначнай станцыі, а гэта за дваццаць вёрст ад хаты. Зіма. Снег. Яна цяжарная была. Каня ў сані — і паехала. Тут завіруха ўсчалася. Ды такая, што свету божага не відаць. Ваўкі завылі. Конь панёс. Ніякімі лейцамі не ўтрымаць. Цемра. Нічога не відаць.

Раптам конь стаў як укапаны. Глядзіць, а перад канём старая стаіць. Адкуль яна з'явілася? Чаму? А старая кажа: «Паглядзі, куды едзеш…»

Бабуля злезла з саней і жахнулася — наперадзе абрыў, рака, а ў ёй вада блішчыць. Старая каня развярнула і кажа: «Туды едзь…» Бабуля зноў у сані села. Паехала. Азірнулася, а старой і следу няма.

Бабуля шмат чытала. Перад сном абавязкова хоць газеціну, ды чытала. Яна і лячыць магла. І ад спалоху, і ад дурнога вока, і нават рожу магла загаварыць. Мой Юрка, калі яму пяць было, пачаў мачыцца. Яна з ім пабыла, пашаптала, і як рукой зняло.

Як я ўжо гаварыла, мае бацькі былі камуністамі, а таму мяне не хрысцілі. Нехрысцю расла. І вось, калі мне пяць гадкоў было, яны да мяне пачалі прыходзіць. Ляжу ў ложку, спаць трэба. А яны тут як тут: за валасы тузаюць, скачуць па ложку, павіскваюць… Я ў слёзы.

Вядома, дзіцём была. Адкуль мне было ведаць, хто гэта. Дарослыя пытаюцца, а я нічога адказаць не магу. Тады мне кажуць: «А ты пакажы іх, намалюй». Я і пачала маляваць: рожкі, мордачкі, ножкі казліныя, поўсць — цяпер помню — карычневатая такая…

Тады бабуля кажа: «Хрысціць трэба…» А як? У царкве нельга. Дома, у хаце, ціхенька і ахрысцілі. Яны і перасталі прыходзіць.

Праўда, пазней, калі пачала ў дзеўкі ўбірацца, начавала адна ў трохпакаёўцы. Бацькі ў вечных камандзіроўках. Ноччу чую: дзверы ў спальню адчыняюцца. На парозе з'яўляюцца двое. Глядзяць на мяне, гыгыкаюць. Я зноў да бабулі. Больш адна не начавала.

Яны да дзяцей, да чыстых душ прыстаюць…

Замаўчала. Глядзіць уверх. Думае. А потым:

— Брат служыць на падлодцы. Яшчэ пры Саюзе гэта было. Усе няверуючымі былі. Заплылі яны ў чужыя воды. А там іх засяклі. Лодка на дно лягла. Дзень праходзіць, тыдзень. І такое напружанне ў людзей з'явілася… Віна давалі ўволю. Пілі хлопцы, чаго казаць. Неяк сядзяць брат і яго сябар за столікам. Бачыць брат, што яны насупраць за столік селі і сабе віно ў чаркі наліваюць.

Брат пытае ў сябра:

— Ты што-небудзь бачыш?

Той адказвае:

— Бачу… Не скажу, каго. Скажу толькі, што яны наша віно п'юць.

А потым, калі лодка ў порт вярнулася, як толькі ўся каманда на бераг ступіла — у царкву падаліся. І камандзір, і памочнікі…

Зноў замаўкае.

А потым як сама ў сябе пытае:

— Вось чаму ўсе, хто з імі сустракаецца, аднолькава іх апісваюць, падрабязна?..

І нечакана перакідваецца на іншае:

— Усё прайшла: і кідалава, і абэпы, і дэфэзэраўцаў. Адна мяне падвяла: «левы» тавар падсунула, а яны накрылі. Знарок ці не — не ведаю… Да іх у кантору цэлы месяц хадзіла, як на працу. Сербану каньяку і іду. Яны псіхолагі вялікія…

Памаўчаўшы:

— Выкруцілася. Калі б ляпнула лішняга… Было б са мною, як з тымі, у якіх рожкі на галаве.

Усміхаецца. Абводзіць мяне чысцюткім блакітам вялікіх вачэй…

## ЛЁС

З сябрам начаваў на беразе ракі. Ноччу выбраўся з палаткі, усеўся ў рыбацкае крэсла, глядзеў на абрысы прырэчных кустоў, на бліскучую ад расы траву. У завадзі — сом: бух-бух, ба-бух… Далёка-далёка за лесам тахахнуў цягнік. Над галавой купалам віселі зоркі. Час ад часу ў небе быццам хто чыркаў сернічкай: між зорак мільгала белая палоска і раптам гасла.

Адарваны ад гарадской мітусні, адчуў малазначнасць перад бязмежным, дзе глуха бухае сом, дзе бясконцыя зоркі, дзе нябачныя птушкі застылі ў кустах. І гэта была не думка, а адчуванне, якое рэзка, да дрыжыкаў працінала цела. Падумалася пра тысячы сувязяў, законаў, да канца не спазнаных, якія яднаюць нас, людзей.

І чым больш разважаю над сваім бесталковым лёсам, над лёсамі іншых людзей, зноў жа, не розумам, а пачуццём адчуваў, што на працягу жыцця чалавечага выразна прагладаецца пэўная заканамернасць. І таму, каб трошкі разабрацца ў гэтай заканамернасці, людзі часта гавораць пра лёс.

Але што ёсць лёс?

Неяк у бальнічнай палаце слухаў споведзь мужчыны. Ён захварэў, і мо таму ягоныя словы пра жыццё набывалі нейкі двайны трагічны водсвет. Усё меў: тактычнасць, хваткасць, розум. Але ён быў тройчы судзімы. Пазней, калі разважаў пра ягонае жыццё, пагаджаўся: характар — гэта лёс.

Ні адзін з нас не думае, не хоча шукаць гуза на сваю галаву, але ж чаму тады людзі гавораць пра шчаслівчыкаў і не…

Што ж тады такое — лёс?

# ВЫБАР НА ВЯСНУ

**Непрадказальная, узрушаная, свежая — такая вясна. І такая паэзія. Сустрэча з добрай паэзіяй — гэта заўсёды подых вясны, адсюль легкаважна можна зрабіць выснову, што і вясна — найлепшы сезон для чытання вершаў. У адрозненні ад банальнай белетрыстыкі, паэтычныя зборнікі — кнігі не на адну вясну, кнігарні і інтэрнэт-крамы з гэтай нагоды заўсёды радыя пакупнікам, а паэзія легкакрылымі мятлікамі, галінкамі бэзу і шумлівай залевай жыве толькі тады, калі яе чытаюць...**




*Граматыка снегу / Вольга Гапеева. — Мінск: Галіяфы, 2017. — 68 с.*

**Настрой.** Кнігу Вольгі Гапеевай варта чытаць, каб адпачыць душой, калі ў прыватным жыцці надышла чарада непаразуменняў. Так, у жыцці здараюцца расстанні і крыўды, але ўвогуле свет зменлівы і пералівісты, кожнае расстанне папярэднічае новай сустрэчы, а пачуцці жывуць у душы часта насуперак словам, якія вызначаюць пэўныя этапы ў стасунках. Многія вершы Вольгі Гапеевай прасякнутыя адчуваннем адзіноты, але гэта часцей не пранізлівая, балючая адзінота, а аскомістыя ноты палыну ці грэйпфрута ў прыемнай парфюмернай кампазіцыі. Мора, вецер, гарачы пясок — усё гэта часам не менш істотна за чарговую гісторыю кахання...

**Адметнасці кнігі.** У параўнанні з іншымі зборнікамі, «Граматыка снегу» — творчы набытак сталага аўтара, які ўжо мае некалькі паэтычных кніг. Цікава, што ў дадатак да 55 вершаў, пералічаных у змесце, чытач атрымлівае тры новыя верлібры. Дзякуючы адмысловаму пазначэнню пачатку раздзелаў змест чытаецца як асобныя творы, якія складаюцца з першых радкоў усіх вершаў. Самым удалым падаецца апошні тэкст — своеасаблівая квінтэсэнцыя кнігі.

**Пра што.** У кнізе Вольгі Гапеевай шмат снегу, але зусім няма святаў. Святы ўжо не цешаць, дый «верыць у цуд на каляды — ужо непрыстойна / не таму, што дарослая / а таму, што за кожным цудам стаіць чыясьці вялікая праца...». Граматычныя правілы згадваюцца таксама неаднойчы — гэтыя правілы даводзіцца парушаць (вядома, не ў сэнсе правапісу), і ўвогуле яны абмяжоўваюць, спыняюць, стрымліваюць, як і ўсе іншыя стэрэатыпы, устаноўкі, прадпісанні, якіх так шмат у кожным грамадстве.

Каханне — лейтматыў многіх твораў, і адчуванне адзіноты ды нейкай саманедастатковасці нярэдка перапыняе роздумы, урываецца ў пейзажныя замалёўкі. Разам з тым Вольга Гапеева нярэдка глядзіць на стасункі і размовы з мужчынамі збоку і каментуе іх як чалавек, дасведчаны ў гендаралогіі і фемiністычных штудыях.

**Як.** У сярэдзіне першага раздзела Вольга Гапеева абяцае, што не будзе шукаць рыфмы, але сугуччы зрэдку самахоць знаходзяць месца ў творах і ўспыхваюць, асвятляючы верш. Што да зместу, то зразумела, што ў наш час заблытанасць, сэнсавая няпэўнасць, незвязанасць асобных частак выказвання — зусім не праблема, а цікавая адметнасць аўтара. У «Граматыцы снегу» ёсць нямала вершаў, дзе строфы падаюцца аб'яднанымі выпадкова, дзе асацыятыўныя шэрагі вядуць нібыта ў розныя бакі. Многім чытачам гэта імпануе: Вольга Гапеева — стыпендыятка міжнародных праграм для пісьменнікаў і перакладчыкаў, яе творы перакладзеныя больш як на 10 моў свету. Хто-ніхто за чытаннем зборніка можа ўзгадаць дыскусію наконт кнігі Вальжыны Морт «Тоненькая як твае вейкі» ў часопісе «Маладосць» (№ 5, 2006), дзе Таццяна Пузенка пісала пра неалагічнае жыццё зацертых тропаў, псіхалагічна-асацыятыўны натуралізм і зрэшты рызыку несінхроннасці эмацыянальных рэакцый аўтаркі і чытача (што можа выклікаць жаданне загарнуць кніжку і адкласці яе).

**NB.** Найлепшымі ў зборніку такі падаюцца вершы на адну тэму, дзе ёсць сувязь паміж вобразамі і мікратэмамі асобных строф, дзе банальна можна вызначыць галоўную ідэю (хай сабе з новым прачытаннем яна можа фармулявацца ўжо інакш) і адказаць на пытанне: пра што? Пра шафу, якая была дрэвам («крысо майго пінжака адлятае на захад... »). Пра ўласнае цела, якому не падабаецца, як яго апранаюць («ніколі не думала што цяжка насіць сукенку...»). Пра кароткія сустрэчы на перонах вакзалаў са знаёмымі і каханымі («браты люм'ер... »). Пра яго, па якім можна хадзіць як па музеі, але нічога нельга кранаць: «ты — як мора ў якім сёння / забаранілі праз шторм плаваць / і чую вось яно (мора) пад маімі нагамі / пра яго застаецца адно — марыць / пра цябе застаецца два — думаць / і яшчэ спадзявацца што адбудзецца казка / і да тваіх экспанатаў прычэпяць цыдулку / дакраніцеся, калі ласка». («я хаджу па табе як па музеі... »). У гэтых уцямных творах можна проста атрымліваць задавальненне ад стылю, а не разблытваць тэкст і быць удзячнымі аўтарцы за няўрымслівасць, гранічную шчырасць і непасрэднасць выказвання.




*Скрозь кіламетры / Аляксей Арцёмаў. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 66 с.*

**Настрой.** Паэзія — магчымасць узняцца над будзённасцю, вырвацца са свету рэчаў у свет ідэй. Аляксей Арцёмаў не засяроджваецца на побыце, на цялеснасці і піша пра хаду часу (сыход лета як непазбежнасць), пра мітусню (насуперак якой уздымаюцца дрэвы), пра недасканаласць жыцця (у якім такі ёсць прыгажосць і пяшчота). Канкрэтнае і звыклае альбо згадваецца як антураж, альбо паўстае сімвалам ці метафарай: «Жыццё — старэнькі чэшскі трамвай на вуліцах Еўпаторыі...».

Кніга «Скрозь кіламетры» дапамагае настроіцца на высокі лад, што нячаста здараецца ў нашай сучаснай літаратуры: тут больш святла, прасторы, класічнай узнёсласці, менш тлуму і мітусні. Але не будзем перабольшваць — іронія і змрочныя высновы таксама знаходзяць месца.

**Адметнасць кнігі.** Чытачам «ЛіМа» не варта нагадваць, што Аляксей Арцёмаў — той самы паэт з горада Тулы, які самахоць вывучыў беларускую мову, каб вызначыць, чым яна адрозніваецца ад украінскай. Што адкрыў шаноўны творца ў Беларусі? Дзівоснае прыцягненне гэтай зямлі і невясёлыя краявіды: «Там забытыя хаты — і побач крыжы, / Бо памерці там лёгка, ды нельга ажыць». У параўнанні з Максімам Багдановічам атрымліваецца даволі сумна, але галоўнае, што Аляксей Арцёмаў піша па-беларуску выдатна і да таго ж яму файна падбіраць рыфмы і ствараць рытмічны малюнак. Гэта атрымліваецца натуральна, нібыта не стрымлівае, не абцяжарвае аўтара... У зборніку ёсць і прадказальныя радкі, што для паэзіі непажадана. Але, бясспрэчна, Аляксей Арцёмаў — адзін з тых творцаў, якія дэманструюць, што рыфмаваная паэзія — не толькі прытулак для аматараў і эпігонаў. Яго вершы вяртаюць у свет класічнай літаратуры, дзе гучаць галасы дзясяткаў лепшых беларускіх і расійскіх паэтаў, а гэты свет значны толькі ў тым выпадку, калі ўзнаўляецца ў новых творах. Аляксей Арцёмаў паўстае і чалавекам, зацікаўленым у непасрэдным узнаўленні добрых вершаў на беларускую мову: у кнізе прадстаўлены і вершы, і пераклады.

**Пра што.** Жыццё — светлы шлях да мары альбо падман, самота і сцюжа? З верша ў верш Аляксей Арцёмаў занатоўвае меркаванні на гэты конт, і мінорны настрой напрыканцы перамагае. Самотны дождж з бліскучага верша «Венецыя» чакае маланкі, якая падпаліць дом, лірычны герой у «Блюзе» таксама сумуе: «І я не абдыму яе плячэй, / Уночы не прыйду — і дзякуй Богу! / Я б мог быць з ёй, я б мог кахаць яшчэ, / Але ў душы святла зусім нямнога». Варта думаць, гэта не назаўсёды — прынамсі таму, што каханне ў гэтым зборніку мае выключную сілу. Тут багата вершаў-спадзяванняў, вершаў-прызнанняў і вершаў-развітанняў, але каханне можа лекаваць і несці святло, яно здараецца аднойчы і назаўсёды. Вершы, звернутыя да каханай, зграбныя, прыгожыя, далікатныя — тут усё класічна проста, няма трывіяльнага, няма вычварнага, але ёсць шчырае пачуццё. У рамантычнай сітуацыі вершы Аляксея Арцёмава будуць гучаць натуральна і ўзнёсла (на выпадак, калі нехта з чытачоў надумае нагадаць абранніцы пра свае пачуцці), і ў анталогію лепшых беларускіх вершаў пра каханне некалькі твораў, без сумніваў, патрапяць.




*Volumen.1 / Міхал Бараноўскі. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 56 с. : іл.*

**Настрой.** Вершы Міхала Бараноўскага немагчыма чытаць як лірычны дзённік — гэта не рэфлексіі ці ўспаміны, якія належаць выключна аўтару і могуць быць прэзентаваны іншым як нейкая цікавостка. Паэт уключае чытача ў свае развагі, у апісаныя перыпетыі, ён распавядае не пра сябе, а пра цябе, пра нас (гэтыя займеннікі ёсць ці не ў кожным вершы), і робіць гэта з першага ж эпіграфа: «Матчына, матчына, матчына. / Бацькава, бацькава, бацькава. / Гэта зямля ніколі не будзе тваёй...».

Зварот да чытача, уключэнне чытача ў твор робіць яго заангажаваным у тыя праблемы, якія вярэдзяць аўтара. Ведама, з ім можна не пагаджацца, але для гэтага трэба ўнурыцца ў тэкст яшчэ глыбей, каб вызначыць, чым адрозніваецца ўласны погляд на рэчы і ці дарэшты ты шчыры з самім сабой.

Большасць твораў па тэматыцы можна было б аднесці да грамадзянскай ці патрыятычнай паэзіі. Аднак яны абсалютна нехрэстаматыйныя: тут шмат моцных слоўцаў і вір эмоцый, аўтар часта збіваецца на крык, і разам з тым у зборніку шмат радкоў, за якія адразу даруецца нецэнзурная лексіка: «Пакуль мы расцем / Карэннем уніз, / А сэрцам цягнемся ўверх, / Яшчэ ёсць шанец застацца жывымі / Кветкамі па траве».

**Адметнасці кнігі.** Па-першае, для Міхала Бараноўскага больш чым для іншых аўтараў актуальны сацыяльны, палітычны, гістарычны кантэкст. Паэт выводзіць сваіх чытачоў на плошчы і праспекты, у творах шмат адсылак да класікі, але Кастусь Каліноўскі, Канстанцін Астрожскі, князь-рыба і Зорка Венера аказваюцца ў абсалютна нечаканым, нелірычным атачэнні.

Другая адметнасць — дызайн выдання (малюнкі аўтара, мастацкае афармленне Ксеніі Шталенковай). Кніга, як і належыць, чорна-белая, але чорныя тут не толькі літары, але і геаметрычныя фігуры, невялікія замалёўкі. Гэтае афармленне не рэжа вока і дазваляе засяродзіцца толькі на тэксце, а пры жаданні — суаднесці ілюстрацыі са зместам, разгледзець чалавечкаў у дзіўных позах, задумацца над сімвалічнасцю чорных квадратаў.

**Пра што.** *«Volumen.1»* — таксама кніга пра любоў, ці, дакладней, пра тое, як яе не стае, як яна знікае: «Вось табе / Вера, / Надзея / І... / Прабач: памяць з часам не ззяе ярчэй. / Але я памятаю: / Нешта было, / Здаецца, было / Яшчэ...». Бракуе любові ў праклятым горадзе, на караблі, а тым больш на полі змагання, дзе з далоняў ваяроў сыплецца ў зямлю «зерне нянавісці і любові».

**Як.** Чорнае і белае, Каін і Абель, кветкі і нажы, агонь і снег у гэтай кнізе заўсёды побач. Міхал Бараноўскі асцерагаецца быць спакойным і лірычным (бо тэмперамент, дый колькі ўжо такіх паэтаў было), ён супрацьпастаўляе, выгуквае, падштурхоўвае. Нават пяшчотную мелодыю «Твае вочы сінія-сінія... / Быццам азёры чыстай вады...» перапыняе вокліч «Забі мяне», а далей «Як у кузні, / Звінела ўнутры жалеза, / Нешта біла, што моцы, па рэбрах у разнатакт...». Без моцнага, гучнага і цяжкога паэт абыходзіцца толькі ў некалькіх вершах, прысвечаных блізкім. Большасць твораў не ўкладаецца ў фармальныя схемы — тут ніяк не ўтрымацца ад параўнання з Уладзімірам Маякоўскім: падабенства не толькі ў абліччы верша, але і ў выключнай эмацыянальнай напружанасці. Кніга Міхала Бараноўскага абуджае — як гучны фолк-метал у цёплую вясновую раніцу, — разварушвае і падштурхоўвае брацца за справы. Не заўсёды і не пра ўсё можна казаць прыгожымі словамі, часам даводзіцца збівацца на крык і наогул гукаць мацней, бо...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# «БЫ ДРЭВА, ШТО МАЕ АДНО КАРЭННЕ…»

## З НОВАЙ КНІГАЙ — ДА ЗЕМЛЯКОЎ

**Паэт Алесь Разанаў піша як адчувае. Яго словы знаходзяць тых, хто адчувае так жа. Адзінае адчуванне нараджаецца з нейкай ледзь улоўнай повязі, што існуе між людзьмі. Яны могуць быць на адлегласці, могуць мець адлегласць у некалькі пакаленняў, але сыдуцца ў адзін дзень у адной кропцы. Таму што гэта кропка агульнага пачатку. Радзіма — малая для некага — становіцца вялікай для многіх, калі яе ёсць каму ўслаўляць.**



Фота Ларысы Цімошык.

Гэта маглі адчуць тыя, хто сабраліся ў чытальнай зале Бярозаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі на сустрэчу з Алесем Разанавым. Юбіляр гэтага года — адзначылі на пачатку імпрэзы. І ўзгадалі яшчэ адну сёлетнюю юбілярку — паэтэсу Раісу Баравікову. І Алесь Сцяпанавіч, і Раіса Андрэеўна ў свой час працавалі ў газеце "Літаратура і мастацтва", якая наогул у розныя перыяды сваёй 85-гадовай гісторыі (таксама адметная дата) знаёміла з творамі аўтараў, што родам з Бярозаўшчыны. Гэта было адлюстравана ў выстаўцы, падрыхтаванай супрацоўнікамі раённай бібліятэкі: па публікацыях з «ЛіМа» можна даведацца, якія творчыя сілы даў гэты раён Беларусі.

Цудоўна гэта ведае шматгадовы рэдактар раённай газеты «Маяк», краязнаўца і ганаровы грамадзянін горада Бяроза Яўген Сяленя:

— Бяроза адметная ў літаратурным плане: раён даў кагорту пісьменнікаў, кожным з якіх можна ганарыцца. Паэтэса Раіса Баравікова была рэдактарам часопіса «Маладосць», клапацілася пра прыток новых талентаў у літаратуру. Адметным творцам і неабыякавым чалавекам быў празаік і публіцыст Анатоль Казловіч. Наша зямлячка Ніна Мацяш — паэтка ад Бога. Выдатна працаваў як драматург і літаратар Мікола Арахоўскі, памятаем паэта і перакладчыка Васіля Сахарчука. Ганарымся творчымі людзьмі, пісьменнікамі і журналістамі Міхасём Шыманскім і Віктарам Супрунчуком, паэткай і празаікам Зінаідай Дудзюк… Большасць з іх пачыналі сваю літаратурную біяграфію ў нашай раённай газеце, яшчэ калі вучыліся ў школе, а пасля кожны праявіў сябе ў канкрэтным кірунку. Алесь Разанаў — гэта наш паэт-філосаф.

Але Яўген Васільевіч памятае яшчэ Разанава-юнака родам з вёскі Сялец, які быў актыўным членам літаб'яднання «Крыніца» (пры рэдакцыі раённай газеты). Той юнак стаў паэтам еўрапейскага ўзроўню, быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы, а таксама еўрапейскімі літаратурнымі ўзнагародамі, але ад сваёй радзімы не адарваўся. Словы цудоўнага паэта Рыгора Барадуліна «…дома бываць не госцем» для Алеся Разанава — аксіёма, у якой не трэба пераконваць. Запрасілі землякі на сустрэчу — ён прыехаў.

— Бяроза — гэта не толькі горад. Бяроза — гэта з'ява, — звярнуўся паэт да тых, хто сабраўся ў зале раённай бібліятэкі, дзе сярод аматараў паэзіі і сябраў літаб'яднання «Крыніца» былі настаўнікі літаратуры і вучні старэйшых класаў. — Гэта рэгіён, які ахапілвае розныя паселішчы, вёскі, усіх людзей, якія далучаны да гэтай зямлі: нарадзіліся тут ці гадаваліся, сталелі і прыходзілі да разумення саміх сябе. Для тых, хто з Бярозы, гэта не проста геаграфічная назва, а нават сімвал.

Жыццё прасякнута сімвалізмам. Ці ўмеем мы считваць гэтыя сімвалы, асэнсоўваць, так жа глыбока, як гэта робяць паэты? «Маем найбольшае самі» — таксама сімвалічная назва для вялікай работы, якая паяднала землякоў — прадстаўнікоў і носьбітаў адной традыцыі — беларускай кніжнай культуры. У анатацыі да кнігі «Маем найбольшае самі» гаворыцца: «Францыск Скарына — паэт. У тэкстах яго прадмоў да кніг Біблії прысутнічае паэтычны пачатак. Перастораныя на сучасную беларускую мову, яны становяцца з'явай самой паэзіі». Пра нараджэнне ідэі гэтай кнігі Алесь Разанаў распавёў на сустрэчы:

— Гэта кніга ўзнаўленняў прадмоў Францыска Скарыны. Ён выдаваў кнігі Біблії, перастораныя на старабеларускай мове, але да іх ён пісаў прадмовы… Я чытаў, учытваўся, нешта кранала, і ключ павярнуўся: яны загучалі. Загучалі моцна, празрыста, на сучаснай беларускай мове. Я знайшоў у іх паэтычны ключ. Гэта было нават трошкі нечакана для нашых літаратуразнаўцаў, яны прысвячалі сваю ўвагу, свае вышукі больш самому Скарыну і колішнім папяроднікам. Але Алег Лойка ў кнізе «Старабеларуская літаратура» прысвяціў раздзел, дзе казаў, што Скарына таксама паэт. Я лічу, што ён не толькі першадрукар, але і ў самым высокім сэнсе творчая асоба, якая нарадзіла высокую паэзію, перадавала ягонае светаўспрыманне. Вось услухайцеся, як гэта гучыць: «…Гэтак і людзі: да месца, дзе нарадзіліся і ўзгадаваны ў Бозе, вялікую ласку маюць». Мы нарадзіліся і ўзгадаваны ў Бозе тут, у Бярозе, — дзякуй ёй за гэта…

Чытаннем перастворанняў Скарыны не абмежыліся. У адказ на пытанне пра пераклады і іншыя мовы Алесь Разанаў прачытаў уласныя вершы, створаныя па-літоўску. Энергетыка рытму і гукаў зачаравала, моладзь цікавілася: а колькі ж моў ведае паэт. Пачулі: «Ёсць розная ступень ведання і розная ступень няведання мовы». Ступень ведання і няведання чужой мовы — зусім іншая, чым ступень ведання і няведання роднай мовы. Як ступень разумення і неразумення той сутнасці, што імкнуцца данесці словамі. Здавалася, зразумелі: пасля сустрэчы маладыя людзі падыходзілі да паэта па аўтографы.

Мо новыя таленты з бярозаўскай крыніцы?

**Ларыса ЦІМОШЫК**

### У фармуляры

Бярозаўская раённая бібліятэчная сістэма як актыўны падпісчык газеты «ЛіМ» атрымала ў падарунак кнігі з аўтографамі сучасных беларускіх аўтараў. Але актыўнасць супрацоўнікаў бібліятэчнай сеткі найперш адчуваюць жыхары раёна, і справа нават не ў колькасці бібліятэк (раней іх было 45, цяпер у раёне засталося 25 кніжніц, прытым некаторыя вясковыя бібліятэкі маюць добрае матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне), а ў падыходах да працы, калі яны акамулююць вакол сябе жыццё. **Ірына Макарэвіч**, дырэктар раённай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы, распавядае:

— Для нас няма толькі адной пляцоўкі, дзе мы ладзім бібліятэчныя імпрэзы. Гэта можа быць горад, а могуць быць і сельскія бібліятэкі. Напрыклад, рабілі свята ў Стрыгіне — у бібліятэкі быў юбілей, 70 гадоў. А цяпер набліжаецца юбілей горада Бяроза, ужо думаем, як гэта арганізаваць, каб было адметна і запомнілася. І, можа быць, што-небудзь зладзім у Сяльцы з нагоды з юбілею Мікалая Арахоўскага, які адтуль родам. Але ў горадзе ў летні перыяд актыўнае жыццё на плошчы: у нядзелю ладзяцца мерапрыемствы, прыязджаюць вясковыя калектывы, далучаюцца розныя арганізацыі культуры, мы робім тэатралізаваныя пляцоўкі — з батлейкай, лялькамі. І арганізоўваем чытанне на плошчы. А яшчэ летась у нас узнікла добрая практыка: чытальная зала на вольным паветры. Скарысталіся месцазнаходжаннем у цэнтры, ля гарадскога сквера, дзе звычайна збіраюцца мамы з дзеткамі ды моладзь. Нам дапамагалі валанцёры: школьнікі праходзілі практыку ў раённай бібліятэцы — актыўна запісвалі чытачоў, запаўнялі фармуляры. Запісалі ў бібліятэку нават Леаніда Аляксеевіча Мартынюка, новага кіраўніка раёна, які толькі прыехаў у Бярозу. Ён знаёміўся з горадам, ішоў на працу і пачуў: «Не праходзьце міма, заходзьце ў бібліятэку…» Хлопец стаў запісваць яго, пытае: «Кім працуеце?» — «Старшыня райвыканкама». Так што наш кіраўнік раёна дакладна ведае, як прайсці ў бібліятэку.

# КАВА ДЛЯ НАТХНЕННЯ

**На чарговае пасяджэнне літаратурнага клуба «ЛітКафейнік», сустрэчы ў якім ладзяцца на базе культурна-гістарычнага цэнтра «Залатое кальцо горада Віцебска "Дзвіна"», завітала пісьменніца, сябар СПБ, супрацоўніца рэдакцыі «ЛіМа» Яна Явіч. Аматары літаратуры, а іх было нямала, не прамінулі магчымасці пазнаёміцца з газетай бліжэй.**

Сябры «Літкафейніка» даведаліся пра сёлетні юбілей «ЛіМа», пра тэматычныя спецвыпускі, прысвечаныя літаратуры розных краін. Зацікавіў іх фотаконкурс, які ладзіць калектыў рэдакцыі.

Пісьменніца пазнаёміла віцябчан з уласнай творчасцю, прадставіла фрагмент паэтычнай праграмы «Сугучча радка» ў суаўтарстве з сябрам літаратурнага саюза «Полоцкая ветвь», паэтам Дзмітрыем Юртаевым.

Клуб «ЛітКафейнік» працуе ў Віцебску ужо два гады. Сустрэчы арганізуюць старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Беларускага літаратурнага саюза «Полоцкая ветвь» Алег Сяшко і віцебская паэтэса Алена Крыклівец.

Распачаўся «ЛітКафейнік» увесну 2015 года як адкрытая творчая імпрэза. Віцябчане знаёмяцца з сучаснай літаратурай і пісьменнікамі. На клубных сустрэчах можна пачуць паэтычныя, празаічныя, гумарыстычныя творы і жывую музыку ды пагутарыць за кубкам кавы. А новая імпрэза ўвогуле атрымалася інтэрактыўнай, бо да паэтычнай гутаркі далучыліся амаль усе, хто прыйшоў на сустрэчу. Алег Сяшко нават прадставіў публіцы сваю вершаваную казку.

«ЛітКафейнік» працягвае папаўняцца новымі творамі. Спадзяёмся, і «ЛіМ» папоўніць творы сяброў клуба.

**Ілона ПЯЧЭРСКАЯ**

# УРОКІ АД «ВЯСЁЛКІ»

**Чарговую сустрэчу з чытачамі ў гарадской ратушы Нясвіжа зладзіў галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка», лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ліпскі. Дзясяткі пытанняў ад школьнікаў, цікавы распавед пра «Вясёлку» і «Бусю», сакавітая беларуская мова, шчыры дыялог пісьменніка з юнымі чытачамі — усё гэта стварала атмасферу сапраўднага свята.**

Уладзіміру Сцяпанавічу было што расказаць хлопчыкам і дзяўчынкам: здаецца, фантазія ў пісьменніка бясконцая. Творчасць Уладзіміра Ліпскага грунтуецца на выключна добрым веданні жыцця. Літаратар хоча давесці да гарадскіх і вясковых школьнікаў прыярытэты ўладкавання ў краіне і грамадстве. І робіць гэта Уладзімір Сцяпанавіч нязмушана, з паважлівым стаўленнем да сваіх герояў. Апошнім часам пісьменнік многія свае творы прысвячае сучаснікам — вучоным, хлебаробам, працаўнікам, якія мэтанакіравана ідуць па жыцці.

Распавялі ў Нясвіжы і пра творчы праект часопіса, якім апякуецца журналістка і пісьменніца Настасся Радзікевіч: «Вясёлка» надрукавала цыкл нарысаў пра палацава-замкавы комплекс «Нясвіж», яго даўніну і сучаснасць. Неўзабаве гэтыя нарысы пабачаць свет асобнай кнігай у выдавецтве «Адукацыя і выхаванне».

**Сяргей ШЫЧКО**

# ЗА БЕЛАРУСКІМ «СТАЛОМ»...

У гэтым праекце ён цалкам адмовіўся ад жывапісу і звярнуўся да мультымедыйных сродкаў. У відэафільме стол прадстаўлены велізарным, бясконцым. Гэта зроблена тэхнічнымі сродкамі, знята такім чынам, што чалавек, які сядзіць у павільёне за сталом, глядзіць на дзеянне, якое таксама адбываецца за сталом. Падчас прагляду перад вачыма гледача змяняюцца розныя сцэнкі. У іх бяруць удзел знакамітыя беларускія акцёры.

Цікава, што гледачам прапаноўваецца не проста назіраць за дзеяннем фільма, але і апынуцца з яго героямі за адным сталом. Гэта спецыяльная аўтарская разынка, якая дазваляе пазбавіцца скаванасці і сціпласці. Глядач практычна знаходзіць суразмоўцу, які можа як пачуць апанента, так і падзяліцца з ім уласнымі думкамі. Важна і тое, што людзі, якія апынаюцца за беларускім сталом, не адчуваюць, што не ведаюць нашай мовы, нават на цітры не глядзяць, а паглыбляюцца ў працэс эмацыйнага дзеяння.




*Падчас адкрыцця экспазіцыі.*

## Побыт і нацыянальнае

— У праекце Раман Заслонаў паспрабаваў расказаць гледачу, хто такі беларус, чым ён займаецца, як паводзіць сябе ў пэўных сітуацыях, — працягвае Наталля Шаранговіч. — Аўтар дэталёва перадае міміку, жэсты. Ён стварыў міні-сцэны, якія чалавеку, што разумее нашу рэчаіснасць, даюць уяўленне, у якім свеце мы жывём. У нашым жыцці ёсць шмат стэрэатыпаў, і мы іх не заўважаем. Раман, як чалавек, які жыве і ў Францыі, і ў Беларусі, заўважае тыя рэчы, якія наш замылены погляд, быць можа, і не ўбачыць. У відэа ёсць цалкам звычайныя сцэны: чалавек п'е каву, размаўляе. А ёсць такія, якія нас суадносяць з дзеяннямі прафесійнымі: як дыктар чытае навіны альбо як танчыць, расцягваецца балерына. Ёсць сентыментальныя сюжэты: жанчына чакае каханага, а ён так і не прыходзіць. Па сутнасці, стол — прадмет побыту і прадугледжвае побытавыя сітуацыі. Характар выказвання прадстаўленых відэасцэн будзе знаёмы чалавеку з постсавецкага грамадства. Гэтыя дэталі характарызуюць наша стаўленне адзін да аднаго. Пры праглядзе фільма пачынаеш улоўліваць добры гумар, характэрны нашай беларускай ментальнасці. Калі цалкам праглядаеш фільм (ён доўжыцца амаль 30 хвілін), застаецца адчуванне, што трапляеш у нейкі аўтарскі свет. Раман стварыў менавіта асобны свет, праз які людзі ўспрымаюць сябе па-рознаму.

Падчас падрыхтоўкі праекта любы аўтар разлічвае на падтрымку і адзнаку гледача. Асабліва гэта важна ў момант, калі мастак адыходзіць ад звыклай справы і вырашае паказаць сябе з новага боку. Для Рамана Заслонава праект стаў прысвячэннем радзіме, і глядач гэта адчуў. Наталля Шаранговіч расказала, як у Венецыі адрэагавалі на творчасць мастака:

— Людзі, якія прыходзілі ў наш павільён пасля адкрыцця, па-свойму трансфармавалі праект. Тым, хто прыехаў з блізкіх да нас краін, вельмі падабалася дзеянне на экране. Яны бачылі ў гэтым частку свайго жыцця. Прадстаўнікі журы, якія прыйшлі ў наш павільён, паглядзеўшы відэаарт, сказалі, што праект пазітыўна-эмацыйны. А гэта асноўнае, чаго дамагаўся Раман Заслонаў. Ён не маляваў карціну, якую ўспрымаюць адназначна як палатно, а спрабаваў стварыць настрой, свет нашага побыту, які мы не заўсёды заўважаем, а ён заўважыў і паспрабаваў увасобіць у міні-сцэнах. Праект атрымаўся еўрапейскім і, галоўнае, біенальным. Для ўдзелу ў такім мерапрыемстве вельмі важна трапіць у агульную плынь еўрапейскага мастацтва. Ёсць спосабы прадстаўлення мастацтва, якія зразумелыя любому крытыку еўрапейскай прасторы. Было важна прэзентаваць не тое, што ў нас ёсць, напрыклад, добры жывапіс ці графіку, — трэба было трапіць у тэму, прадставіць яе так, каб яна была зразумелая і прачытаная еўрапейскім гледачом.

У Рамана атрымалася. Беларускі павільён вельмі вылучаецца, хоць відэаарту на такіх выстаўках заўсёды шмат. Наш — асаблівы: у ім прачытваецца сэнс, дзеянне і пасыл мастака. Ярка і прыгожа паказаныя асобы акцёраў, што вяртае нас да старой мастацкай кінашколы, якой заўсёды славіўся «Беларусьфільм». Твары, паказаныя буйным планам, і выразная міміка канцэнтруюць увагу. Еўрапейскае кіно, дарэчы, даўно адышло ад дэталізацыі.



*Фрагмент праекта «Стол».*

## Сімвал і бясконцасць

Праект Рамана Заслонава складаецца з дзвюх частак. Калі першая — відэаарт, то другая — арт-інсталяцыя, якая працягвае тэму бясконцасці. Такім чынам, пасля прагляду чалавек можа патрапіць у наступны пакой, дзе толькі крыху асветлены велізарны пясочны гадзіннік, у якім замест пяску мастак выкарыстаў маленькія столікі, што перасыпаюцца зверху ўніз. Як можна зразумець, стол для аўтара — яшчэ і частка сусветнай прасторы, яе бясконцасці. Дарэчы, пясочны гадзіннік быў выбраны з мэтай агульнага сусветнага сімвала, а маленькія столікі — наадварот: яны падкрэсліваюць індывідуальнасць і падмацоўваюць аўтарскую задуму.

Нягледзячы на цікавую канцэпцыю, яшчэ да адкрыцця біенале ў Мінску на Рамана Заслонава абрынуўся шквал крытыкі. Многія казалі, што мастак, які жыве ў Францыі, не можа прадстаўляць Беларусь на міжнародных мерапрыемствах. Нават гучалі абвінавачванні ў салоннасці. Сам жа Раман абыякава паставіўся да чутак і працягнуў работу. А вось Наталля Шаранговіч упэўненая, што няма розніцы, дзе жыве чалавек, калі ён пазіцыянуе сябе беларусам і актыўна развівае родную культуру як на тэрыторыі сваёй краіны, так і за мяжой:

— Калі праходзіць конкурс, то ўсе праекты першапачаткова ананімныя. Ніхто з членаў журы не ведае, хто куратар пэўнай ідэі. Можна, вядома, здагадацца, але ў любым выпадку інфармацыя зашыфраваная. Многіх куратараў, якія падаваліся на конкурс сёлета, журы нават не пазнала па стылі. Было шмат нечаканасцяў у адрозненне ад мінулых двух гадоў, калі імя аўтара можна было счытаць з ідэі. Праект Заслонава, як вы разумееце, ацэньваўся не па прозвішчы. Любы мастак мае права на эксперымент. І тут Раман цалкам адышоў ад сябе: паказаў ідэю, у якой ад жывапісу Рамана Заслонава не было наогул нічога, пераканаў камісію ўжо знятым відэафільмам, і ідэя павільёна была моцная, біенальная, вельмі трапляла ў тэму... А што тычыцца крытыкі, то праект першапачаткова трэба ўбачыць, а потым рабіць высновы. Бо многія нашы мастакі эксперыментуюць. Быць розным — гэта асаблівасць нашай мастацкай школы. У нас шмат аўтараў, якія могуць зрабіць як традыцыйную работу, так і канцэптуальную. Беларускае мастацтва фарміруецца на памежжы культур, у тым ліку і таму, што мы жывём на памежжы Захаду і Усходу. У нас шмат досведу з Савецкага Саюза, але ёсць і шмат эксперымента, які ўрываецца з Заходняй Еўропы. Нам атрымліваецца гэта злучаць, ствараць сваё ўяўленне пра творчасць. Таму і Раман, як выхаванец гэтага грамадства і школы, таксама ўспрымае мастацтва свабодным.

## Атмасфера і бязмежнасць

Павільён Беларусі знаходзіцца ў жывапісным месцы Венецыі — паміж садамі Джардзіні і Арсеналам. Турысты, якія прыязджаюць у Венецыю, могуць атрымаць спецыяльную карту, дзе адзначаны ўсе павільёны, у тым ліку і наш. Такое ўдалае месцазнаходжанне прыцягвае вялікую колькасць турыстаў, і арганізатары гэта адчулі. Павільён Беларусі сабраў шмат наведнікаў. Сам павільён знаходзіцца ў старой венецыянскай галерэі з высокімі столямі. Дом, дзе месціцца галерэя, пабудаваны ў 1640 годзе. Яго часта маляваў знакаміты венецыянскі пейзажыст Каналета.

— Заўсёды прыемна, калі трапляеш у атмасферу, дзе кожны камень — гісторыя, — падкрэсліла Наталля Шаранговіч. — Важна, каб сучасны праект арганічна ўпісваўся ў гэтую атмасферу. У Рамана атрымалася выдатная ідэя прэзэнтацыі павільёна. Гэта таксама вельмі важна — зацікавіць гледача знешняй рэкламай. Калі каля павільёна на вялікіх вокнах стаяць велізарныя банеры, дзе мы можам бачыць сцэны з відэафільма, то над вокнамі на старым партале, зробленым з дрэва, Раман з дапамогай такога ж старога дрэва напісаў слова «стол». Калі ідзеш міма павільёна, літары не выбіваюцца, гэта знак якасці: мастаку ўдалося арганічна ўвесці наша славянскае слова ў старую венецыянскую атмасферу. Атрымаўся паспяховы аўтарскі ход. Дарэчы, у Венецыі нацыянальны павільён мае дастаткова шмат свабоды. Праект узгадняецца з дырэктарам біенале, каб тэхнічна не пашкодзіць старую пабудову, не перашкаджаць руху людзей. Але ніколі дырэкцыя біенале не папраўляе чужы праект. На водкуп краіне пакідаецца абавязак адпавядаць агульнай тэматыцы. Мастацтва можна трактаваць па-рознаму, на выстаўцы гэта вельмі кідаецца ў вочы. Хтосьці прадставіў сябе праз музыку, хтосьці — праз народнае мастацтва. Напрыклад, Андора ўзяла зляпленыя гаршкі і з дапамогай іх стварыла велізарную інсталяцыю ў прасторы. А праект куратара біенале быў накіраваны на рукатворныя рэчы, якія, здавалася б, часта параўноўваюць з непрафесіяналізмам. Гэта прыкмета таго, што ў сучасным мастацтве шмат эксперымента і мала межаў. Межы могуць быць этычнымі, не павінна быць распальвання нацыянальнай варожасці, нейкіх відавочных сексуальных момантаў, але межаў для самавыяўлення няма.

Беларускі нацыянальны павільён будзе працаваць на Венецыянскай біенале да 26 лістапада. Пасля праект будзе прэзентаваны ў Мінску ў адным з памяшканняў Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў.

**Вікторыя АСКЕРА**

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**

# ДРЭВЫ Ў КВЕЦЕНІ...

## Знаёмыя і новыя героі «Вішнёвага саду» паводле беларускага балета


Фота Марыі Калады.
Аня і Пётр.

Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр папоўніў рэпертуар прэм'ерай балета «Вішнёвы сад». Аўтар большай часткі музыкі — сучасны беларускі кампазітар Алег Хадоска, творы якога ўжо вядомыя беларускім аматарам балета. Але ў пастаноўцы выкарыстаны фрагмент з неўміручай оперы «Яўгеній Анегін» Пятра Чайкоўскага і сачыненні Сяргея Свірыдава — «Завея», «Маленькі трыпціх» і «Час, наперад». У выкананні аркестра пад кіраўніцтвам дырыжора-пастаноўшчыка Марыны Трацяковай творы розных аўтараў ў спалучэнні павінны былі стварыць настрой, патрэбны пастаноўшчыку.

Адкрыццём у гэтым спектаклі стала імя балетмайстра-пастаноўшчыка: Сяргей Мікель — пяцікурснік Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і вучань народнага артыста Беларусі і СССР Валянціна Елізар'ева. Што ж атрымалася з творчага эксперымента харэографа-пачаткоўца?

Перш за ўсё варта папярэдзіць, што гэта не класічны пераказ несмяротнай п'есы Антона Чэхава. Лібрэта напісаў сам Сяргей Мікель, пераасэнсаваўшы сюжэт. Таму прыхільнікам класікі давядзецца паглядзець на вядомую гісторыю па-іншаму: частка персанажаў стала фонам, некаторыя выйшлі на першы план і ўспрымаюцца больш ярка.

Ермалай Лапахін атрымаў больш цёмныя адценні, наблізіўшыся да адназначнай чарнаты, у той час як у арыгінале ён памятаў пра сваё паходжанне. Асабліва адчуваецца зло ў момант раскідвання папер з працэнтамі і ў сцэнах вырубкі вішань. Выканаўца гэтай партыі Аляксандр Місіюк надаў герою патрэбнага змроку і цудоўна выканаў задачу.

Любоў Ранеўская забылася пра загані і стала больш духоўным персанажам. Яна сумавала па дзяцінстве і юнацтве, гуляючы па садзе, які любіць усім сэрцам. Гэтую сцэну хочацца адзначыць асабліва: выдатны прыём балетмайстра па падзеле героя па ўзростах. Рэалізавалі гэта трое акцёрак: юныя Соф'я Дзем'яновіч і Ксенія Мялешка і асноўная выканаўца ролі Вікторыя Каралёва. Бліжэй да канца дзеяння Любоў Андрэеўна старэе ад гора прама на вачах. Памешчыцу пачынаеш сапраўды шкадаваць, яе сям'і суперажываеш.


Вішні.

Аня і Пётр (Алена Германовіч і Уладзіслаў Пазлевіч) у балеце ўвасабляюць адну з асноўных сюжэтных ліній, змаглі эмацыйна перадаць, як паміж імі паступова нарастае палкае ўзаемнае пачуццё. Праз вобразы маладых людзей адчуваеш аптымізм і веру ў светлую будучыню.

Лінія саду ўсё ж засталася галоўнай у балеце. «Душы» саду ўвасобілі касцюмы: яны нагадваюць пра вясну, калі яшчэ толькі-толькі пачынаецца абнаўленне прыроды і на дрэвах з'яўляюцца першыя лісточкі (за што дзякуй мастаку-пастаноўшчыку Любові Сідзельнікавай). Выгіб тонкіх ліній, якія ўвасабляюць галінкі, кідаецца ў вочы. Але танцы дрэваў у квецені, поўных радасці жыцця, змяняюцца бязлітаснай перадсмяротнай агоніяй.

Наколькі моцна валодаюць грошы свядомасцю гандляра асабліва зразумела ў сцэне аўкцыёну. Яго ўдзельнікі ходзяць у касцюмах з элементамі рамак. Нават самі лоты — драўляныя рамы з-пад карцін — як бы крычаць нам пра абмежаванасць свету Ермалая Лапахіна.

З другарадных персанажаў каларытным атрымаўся Фірс, пажылы лакей. Малады артыст Георгій Андрэйчанка добра ўжыўся ў ролю і пацешна дробненька тупаў на працягу ўсяго дзеяння, чым зрабіў персанажа кранальна-камічным. Магчыма, таму смерць гэтага героя напрыканцы не перажывалася як журботная драма.

Але драму падкрэсліла светлавое вырашэнне ў сцэне канчатковай гібелі саду — гібелі апошніх вішняў. Дрэвы паміралі адно за адным, як салдаты на фронце. Мастак па святле Сяргей Азяран дапамог перадаць атмасферу смерці, якая паступова нагняталася, надаў увагу кожнаму «радавому», што гіне.

Для харэографа Сяргея Мікеля гэты дэбют стаў лёсавызначальным. Маладога спецыяліста ўжо ўзялі на працу ў тэатр. Спектаклем «Вішнёвы сад» ён абараніў дыплом Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў па спецыяльнасці «Харэаграфічнае мастацтва (рэжысура)» і прымусіў гаварыць пра новае імя на беларускай балетнай сцэне.

**Шура ГРАМЫКА**

# 5 хвілін да катастрофы

**Адносіны — цяжкая праца. Так, пра гэта кажуць не толькі са старонак жаночых часопісаў, але і з тэатральнай сцэны. Усе этапы кахання, якое часам штурхае на жахлівыя ўчынкі, усе этапы згасання пачуццяў, усе этапы руйнавання лёсаў — у «Тэктоніцы пачуццяў» Маладзёжнага тэатра.**

Усё пачынаецца досыць пафасна, але жыццёва: мужчына сыходзіць ад жанчыны… за газетамі, на 5 хвілін. Як і для многіх закаханых, для іх гэтае развітанне можа падацца шматгадзінным, шматдзённым, хоць гаворка ў спектаклі ідзе пра людзей сталых, якія, здавалася б, могуць змагацца з гэтай дзіцячай адданасцю. Але «Тэктоніка пачуццяў» у нейкім сэнсе можа зруйнаваць міфы (ці, наадварот, пацвердзіць?) — тры пакаленні, якія прадстаўленыя ў п'есе, захіснутыя каханнем: ці то гэта маладыя дзяўчаты, ці жанчыны ўзросту нашых бабуль. На тое яна і Францыя: стэрэатып рамантычнага Парыжа спрацоўвае выдатна.

У гэтым тэатральным Парыжы вельмі хутка становіцца шэра і страшна, рамантыка кудысьці знікае, саступае месца драматычнай гульні герояў. За 5 хвілін расстання Дыяна (Наталля Анішчанка) разумее, што, напэўна, каханне пачало з чатам знікаць — не, не ў яе, а ў Рышара (Канстанцін Міхаленка). Жанчыне пачынае здавацца, быццам газеты сталі цікавіць яго больш, чым яна, — з такой ракавой думкі і пачынаюць руйнавацца адносіны. У п'есе Эрыка-Эмануэля Шміта, па якой пастаўлены спектакль, аўтар нібы папярэджвае ўсіх, хто прачытае твор: ніколі не трэба шукаць праблем на пустым месцы, а тым больш — штучна іх ствараць. Магчыма, Дыяне проста стала сумна жыць — такое здараецца, калі ўсё добра. А ў яе менавіта так: жанчына працуе ў міністэрстве, мае некалькі кватэр у Парыжы, з ёй побач каханы мужчына, якому яна ўжо сто разоў адмаўляла ў шлюбе. Ці не казка? Але вось што: Рышар перастаў прапаноўваць Дыяне руку і сэрца, а гэта пачало хваляваць жанчыну, для якой прапанова была свайго роду гарантыяй стабільнасці адносінаў.

Але стабільнасць — не пра «Тэктоніку пачуццяў». Каханне ператвараецца ў жаданне адпомсціць, якое Дыяна хавае за маскай сябра (Рышар, як амаль усе мужчыны, прапанаваў былой каханай стаць сябрамі). Але хіба існуе сяброўства такога кшталту? Пытанне вечнае. Так ці інакш, добры сябра заўсёды хоча дапамагчы…



Калі глядзіш другую работу рэжысёра Вікторыі Лугавой на сцэне Маладзёжнага тэатра (першай былі «Дзеці Ванюшына»), то падчас усяго спектакля не пакідае адчуванне, што ты бачыш іншую версію «*Dreamworks*» у пастаноўцы Дзмітрыя Багаслаўскага. Так, сцэнічная мінімалістычнасць дэталяў і тэма кахання яшчэ не могуць сведчыць пра падабенства двух спектакляў, але тут сапраўды шмат падобнага: Вікторыя Лугавая таксама выкарыстала відэашэраг, які цягам усяго спектакля дапамагаў зразумець унутраны стан герояў (хоць часам быў занадта відавочным і нават мог надакучыць). П'есы Вырыпаева і Шміта падобныя яшчэ і тым, што галоўныя гераіні аднолькава жадаюць «прыстроіць» да сваіх мужчын жанчыну, якую выбралі самі.

У «Тэктоніцы пачуццяў» такое жаданне мае крыху іншую прыроду: Дыяна ўсё ж робіць гэта не з добрым намерам, хоць напачатку так падаецца. Нібы паранены звер, яна ўжо не хоча ўспрымаць Рышара як каханага (а пачуццё не праходзіць), але не можа дазволіць яму так лёгка сысці — вось існасць моцнай жанчыны, якая ўжо перажывала развод з мужам. У п'есе Шміта большую частку займае помста, пафарбаваная ў дабрадзейнасць: мілая Дыяна знайшла выдатную кандыдатку — маладую і прыгожую румынку Анку (Лізавета Ільеўская), якой даводзіцца прадаваць сябе за грошы, дапамагла і ёй (уладкавала да багатага Рышара), і Рышару. Лёгка яна зруйнавала і пабудаваную ўласную сям'ю.

Наогул, «будоўлі» ў спектаклі шмат: героі пастаянна перастаўляюць вялізныя кубы, нібы збіраючы складанку, і па гэтых кубах, па іх руках, можна заўважыць, якая розная складанка ў кожнага, як па-рознаму яны ўяўляюць адны і тыя ж рэчы, як узвальваюць куб за кубам на сябе, пераносяць і як ускладаюць гэты цяжар на плечы сябра. Словам, усё як у жыцці, толькі вельмі наглядна — быццам тлумачаць дзецям.

Увесь спектакль насамрэч можна растлумачыць словамі Дыяны (дарэчы, 2,5 гадзіны героі выказваюцца выключна словамі п'есы Шміта, не дадаючы ні кроплі імправізацыі): «Тэктоніка пачуццяў. Памятаеш, мы калісьці казалі пра гэта? Пачуцці ссоўваюцца, як зямная кара. Калі яна прыходзіць у рух, узнікаюць моцныя прылівы, землятрусы, цунамі, вывяржэнні вулканаў... І мы толькі што перажылі гэтыя стыхійныя бедствы. З гонару, з недарэчнай паспешлівасці я стала маніпуляваць пачуццямі і справакавала катастрофу». Пасля катастрофы існаваць можна — будаваць усё наноў, рабіць новыя жыццё, адчуваць і даваць з нуля. Асабліва калі гэта ў тэатры і глядзіш на ўсё выключна збоку.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# ВУЧЫЦЦА НЕФАРМАЛЬНА

**Пытанне прафесійнага ўзроўню нашых кінематаграфістаў абмяркоўваюць пастаянна: што ёсць прафесійная адукацыя і наогул школа? Тым больш што цяпер прыватных кінакурсаў і студый у Беларусі пабольшала. Але якую падрыхтоўку дае кінашкола і што стаіць за тэндэнцыяй нефармальнай адукацыі?**



*Кадр з фільма «Лебедзь» (рэж. М. Варанцоў).*

## УРОК ПЕРШЫ: НЕАКАДЭМІЧНЫ

Кінашкола для Беларусі — паняцце адносна маладое. У адрозненне ад іншых краін, у нас прыватная адукацыя ў кіно стала з'яўляцца не больш за 10 гадоў таму. У нашых суседзяў сітуацыя адваротная: усе ведаюць кінашколу Аляксандра Сакурава ў Санкт-Пецярбургу, кінашколу ў Лодзі (яе выпускнікі — легендарныя рэжысёры, сярод якіх Раман Паланскі, Анджэй Вайда, Кшыштаф Кіслёўскі і Кшыштаф Занусі). Ці варта казаць пра Заходнюю Еўропу і ЗША, дзе кінашколы наогул сталі асобнымі пляцоўкамі для кінаадукацыі, прычым даволі папулярнымі. Мноства сістэм выкладання, тэхнік навучання і рэжысёраў, якія намінаваліся на прэстыжныя ўзнагароды, ствараюць атмасферу, у якой з'яўляюцца абсалютна розныя спецыялісты ў сферы кіно. Вось чаму прайсці праз кінашколу — гэта не толькі модна, але і даволі прэстыжна ў шмат якіх краінах. Што да Беларусі, то ў нас прэвалюе акадэмічная адукацыя. Прычым цяпер стаць дыпламаваным рэжысёрам кіно можна, скончыўшы адзіную ў рэспубліцы навучальную ўстанову — Акадэмію мастацтваў. Ці ёсць для будучых кінематаграфістаў выбар, дзе атрымаць адукацыю?

Прыватныя кінашколы не выдаюць дыпломаў наогул, не робяць прафесіяналамі ці нават спецыялістамі і не адказваюць за працаўладкаванне сваіх выпускнікоў у адрозненне ад дзяржаўнай навучальнай установы. У прыватныя кінашколы людзі прыходзяць не па дыплом, але атрымаць уменні, навучыцца ствараць кіно самастойна. Па сутнасці, пасля заканчэння кінашколы яны атрымліваюць статус «рэжысёр-аматар», або кінааматар. А потым прыходзіць момант вырашэння: ісці ў кіно ці не. Хтосьці працягвае далей атрымліваць прафесійную адукацыю, хтосьці становіцца незалежным фільммейкерам, а для некага кінематограф ператвараецца ў хобі.

Некаторыя выпускнікі кінашкол (дзе імкнуцца пазбегнуць старых методык), тым не менш, вырашаюць працягнуць навучанне ў Акадэміі мастацтваў. І ў кінашколах адзначаюць удалыя работы маладых кінематаграфістаў. Напрыклад, Андрэю Палупанаву падабаецца вельмі «неакадэмічная» стужка «Орша — Мінск — Орша» Юліі Ралко, якая нагадвае стылістыку выпускнікоў школы дакументальнага кіно Марыны Разбежкінай.

Адбору ў беларускія кінашколы наогул няма, у гэтым і асноўнае адрозненне ад прафесійных навучальных устаноў. Трапіць на курс можа кожны ахвотны, дастаткова жадаць і мець сродкі. Але ў кінашколах адзначаюць, што спачатку арганізоўваюць пробныя заняткі, каб людзі ўпэўніліся ў тым, што ім такая адукацыя патрэбная. Але і гэта не гарантуе, што ўсе вучні застануцца да канца праграмы.

## УРОК ДРУГІ: ЗАНЕПАКОЕНАСЦІ

Кіраўнік адной з мінскіх кінашкол Андрэй Палупанаў адзначае, што ў яго школе вучацца людзі абсалютна розных прафесій: медыкі, шмат айцішнікаў, супрацоўнікі салонаў прыгажосці, заводаў, прадпрымальнікі. Што іх сюды прыводзіць? Каля 70 працэнтаў навучэнцаў набываюць веды проста для сябе, хтосьці з іх марыў мець дачыненне да кіно. Каля 30 працэнтаў маюць сур'ёзныя намеры. Зараз адукацыю ў кінашколе атрымліваюць каля 20 рэжысёраў і 12 сцэнарыстаў, ёсць некалькі акцёрскіх груп (нават для дзяцей і падлеткаў), хацелі ствараць і курс прадзюсараў, якога вельмі не хапае ў Беларусі, але ахвотных паступіць не аказалася…

У нашай краіне вельмі мала ўстаноў, якія сапраўды можна лічыць кінашколамі. Ёсць асобныя курсы, па акцёрскім майстэрстве, напрыклад. Але структуры, дзе б навучалі цэламу спектру кінематаграфічных прафесій, амаль няма. Працуюць у Беларусі кінашколы рэжысёра Аляксандры Бутар, Ірыны Брэль. З кожным годам такіх устаноў становіцца больш, але многія з іх, папрацаваўшы пэўны час, закрываюцца. Магчыма, гэта звязана з фінансавым бокам, бо заняткі тут платныя. Але заснавальнікі кінашкол сцвярджаюць, што бізнес зрабіць на такой спецыфічнай сферы вельмі складана. Вядома, кінашколы ствараюцца не дзеля альтруістычных памкненняў, бясплатна вучыць ніхто не будзе, але іх арганізатары зацікаўленыя, каб у айчынным кінапрацэсе штосьці адбывалася, таму ініцыятывы і амбіцыі вучняў заўсёды падтрымліваюцца.

Стратэгія навучання ў беларускіх кінашколах блізкая да заходніх методык, так званая «нефармальная адукацыя». У Беларусі такі спосаб не мае нават юрыдычнага статусу, таму ні пра якое прафесійнае пасведчанне гаворка не ідзе. Нефармальная адукацыя — гэта нават і не само навучанне, а методыка, якая дазваляе навучыць лю-дзей вучыцца, у чым і ёсць адыход ад акадэмізму. Паняцце ўключае яшчэ й партнёрскія стасункі паміж выкладчыкам і студэнтам, стварэнне не аўдыторнай атмасферы, а пляцоўкі для абмену меркаваннямі і ідэямі. Калі прасцей, нефармальная адукацыя скіраваная на тое, каб вучыць думаць. У беларускай сферы кіно гэта выглядае так: класічныя заняткі пачынаюцца з «брэйнсторму», дзе вучні абменьваюцца інфармацыяй, выконваюць заданні, ствараюць гісторыі, часам здымаюць кароткія эпізоды. Кіно на такіх занятках навучэнцам не паказваюць, выкладчыкі лічаць, што гэта менш прагрэсіўна, і час губляецца, таму спісы з фільмамі даюць на дом, а на занятках абмяркоўваюць стыль стужкі, глядзяць эпізоды, каб прааналізаваць форму. Хатняе заданне ў студэнтаў не правяраюць… А чым тады такая нефармальная адукацыя адрозніваецца ад, скажам, самаадукацыі? Тым больш, уся патрэбная інфармацыя ёсць у інтэрнэце, нават можна запісацца на анлайн-курсы, а плаціць не трэба. Андрэй Палупанаў мяркуе, што кінашкола адрозніваецца ад самаадукацыі тым, што стварае для вучняў стымул, стан занепакоенасці, і яны пачынаюць нешта змяняць.

## УРОК ТРЭЦІ: КАМУНІКАЦЫЙНЫ

Магчыма, адной з пераваг кінашколы можа стаць камунікацыя з рэжысёрамі і аператарамі, з майстрамі, датычнымі да сферы кіно, а таксама іх тлумачэнні і рэальныя практычныя парады канкрэтнаму вучню. Поўны метр падчас навучання, вядома, не здымеш, хоць ёсць і выключэнні — кшталту беларускі Улады Сяньковай і яе фільма «Граф у апельсінах». Але стаўка ў такіх установах робіцца на кароткаметражнае і, зразумела, малабюджэтнае кіно, бо яно можа даць старт значна прасцей.

Акцёр Віктар Бойка, які шмат часу прысвяціў працы ў кінашколе Палупанава, узгадвае, што кароткі метр можа стаць яшчэ і спосабам камунікацыі з іншымі рэжысёрамі, здаровай канкурэнцыяй і магчымасцю паўдзельнічаць у пакуль не вельмі вядомых, але патрэбных для маладога кінематаграфіста фестывалях і кінабатлах, адзін з якіх ладзіўся летам у Мінску: «Нам прапанавалі паўдзельнічаць у кінабатле, паказвалі па 3 фільмы ад кінашколы і Акадэміі мастацтваў на адкрытай пляцоўцы, а пераможцу выбіраў глядач — галасаваў манетай».

Менавіта такія «спаборніцтвы» могуць дадаць руху ў айчынны кінематограф, дзе так многа спецыялістаў цягнуцца да прафесійнай незалежнасці. У кінашколах альтэрнатывай старой мадэлі, што пануе ў беларускай кінапрасторы, лічаць стварэнне прасторы незалежных кінематаграфістаў, якія самі знойдуць грошы, магчымасці зняць кіно і пачнуць скараць прасторы кінафестываляў. Напрыклад, вядомы расійскі рэжысёр Валерыя Гай Германіка дзесьці ў 18-19 гадоў прыйшла ў школу дакументальнага кіно Марыны Разбежкінай і сказала, што паедзе ў Каны праз 2 гады. Так і сталася.

Фільмам, знятым выпускнікамі беларусіх кінашкол, пакуль далёка да значных узнагарод, але вышэйзгаданы «Граф у апельсінах» Улады Сяньковай і «Лебедзь» Міхаіла Варанцова здабыць прызы на міжнародных фестывалях здолелі. Часам людзі без прафесійнай адукацыі здзяйсняюць яшчэ больш, чым тыя, у каго яна ёсць. Джэймс Кэмеран, Люк Бесон, Стэнлі Кубрык, Квенцін Таранціна і Стывен Спілберг атрымлівалі кінематаграфічную адукацыю на здымачнай пляцоўцы і ў залах кінатэатраў, але гэта не перашкодзіла ім стаць лаўрэатамі «Оскара», «Сезара» ды іншых прэстыжных прэмій. Магчыма, таленту патрэбнае нешта большае за прафесійную ці аматарскую адукацыю, і няхай гэта будзе любоў да кіно.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Рамантыка беларускага фальклору

За межамі Беларусі нашы стужкі атрымліваюць прызнанне даволі часта. Доказ гэтаму — перамогі айчынных аніматараў, дакументалістаў, а зусім нядаўна навіна пра ўзнагароды беларускіх фільмаў прыйшла з Амерыкі: дзве айчынныя стужкі перамаглі на міжнародным фестывалі *WorldFest-Houston*.

Залатую ўзнагароду «Рэмі» атрымаў мастацкі фільм «Салодкае развітанне Веры» Аляксандры Бутар, якая працуе на нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм», у намінацыі «Рамантычныя ігравыя мастацкія фільмы». А беларуска, якая цяпер жыве ў ЗША, Вольга Дземка, атрымала плацінавы прыз «Рэмі» за дакументальнае кіно «Песні старой Еўропы — старажытныя беларускія народныя песні» ў намінацыі «Этнічныя/культурныя фільмы і відэаматэрыялы». Калі для фільма Аляксандры Бутар узнагарода была першай, то стужка Волі Дземка ўжо адзначалася на амерыканскім індзі-кінафестывалі *CIFF* у 2016 годзе.

Для Вольгі Дземка ўзнагарода была нечаканай, але яшчэ больш нечаканай яна была для Аляксандры Бутар: рэжысёр не дасылала свой фільм на кінафестываль. «Салодкае развітанне Веры», знятае ў 2014 годзе, было прадстаўлена ў Х'юстане беларускім пасольствам у ЗША, якое зацікавілася, чаму ў такім вялікім фестывалі не бярэ ўдзел наша краіна. Рэжысёр даслала стужку на суд журы. Воля Дземка адправіла свой фільм на фестываль сама: усё ж «Песні старой Еўропы» арыентаваныя на англамоўнага гледача. Матэрыял для фільма рэжысёр збірала доўга: 6 гадоў таму яна праехала сотні кіламетраў па Гомельскай і Брэсцкай абласцях, каб запісаць беларускія фальклорныя песні.



*Вольга Дземка падчас паездкі на Палессе.*

Перамога беларускіх кінематаграфістаў на *WorldFest-Houston* — сапраўды значная падзея. Найстарэйшы незалежны фестываль у свеце і трэці па значнасці ў Паўночнай Амерыцы пасля Сан-Францыска і Нью-Ёрка сёлета адзначаў 50-годдзе. У 2017 у ім узялі ўдзел больш за 800 рэжысёраў, прадзюсараў і іншых дзеячаў кінаіндустрыі, у конкурснай праграме было прадстаўлена 194 фільмы з 43 краін. Асаблівасцю фестывалю ў Х'юстане з'яўляецца тое, што ён, у адрозненне ад іншых вялікіх кінафестываляў, прымае работы ў 10 катэгорыях і больш чым у 200 падкатэгорыях. Калісьці адкрыццямі *WorldFest-Houston* сталі Дэвід Лінч, Рыдлі Скот, браты Коэны, Джордж Лукас. Беларусы ўдзельнічалі ў фестывалі толькі ў другі раз (у 2004 годзе там была прадстаўленая наша стужка «Анастасія Слуцкая» Юрыя Ялхова, якая атрымала адразу 2 узнагароды — плацінавы прыз у катэгорыі «Прыгодніцкі фільм» і залаты прыз у намінацыі «Мастак па касцюмах»).

З адной стужкай-пераможцай сёлетняга кінафестывалю можна будзе пазнаёміцца ў мінскім «Доме кіно» — там адбудзецца сустрэча са здымачнай групай. «Салодкае вяртанне Веры» ў «Доме кіно» пакажуць 24 мая, а з 25 па 28 мая фільм прадэманструюць у кінатэатрах «Беларусь» і «Ракета».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# ПРЫСВЯЧЭННЕ

## ад ІІ Мінскага харавога свята «Спявай, мая сталіца!»



Удзельнікі харавога свята «Спявай, мая сталіца!» (кіраўнік праекта У. Чэрнікаў).

...У вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі больш як паўтысячы дзяцей спявалі гімн дзяцінству, міру, роднаму гораду падчас Мінскага харавога свята «*Спявай, мая сталіца!*».

Яно стала своеасаблівым аглядам дасягненняў нацыянальнай культуры ў традыцыях харавога выканання. Мерапрыемствы свята былі арганізаваны Мінскім дзяржаўным музычным каледжам імя М. І. Глінкі пры падтрымцы Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама як прысвячэнне Вялікай Перамозе і 950-годдзю заснавання Мінска.

Адкрыў харавое свята зводны дзіцячы хор сталіцы з прэм'ерай песні Алены Атрашкевіч «Спяваем разам». Пад кіраўніцтвам магістра мастацтвазнаўства, дырыжора Аляксея Снітко аб'ядналіся ўзорныя калектывы дзіцячых школ мастацтваў, жаночы хор «Мелодыка» і жаночая група канцэртнага хору Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі.

Падарункам для гледачоў, прызнаннем шчырай любові роднаму гораду стала песня Аліны Безэнсон «Музыка» ў выкананні зводнага дзіцячага хору (дырыжор — Вераніка Місюра, за раялем — аўтар). А вось сімвалам свята сапраўды можна лічыць гучанне песні «Нас яднае хор!» у суправаджэнні інструментальнага гурта музычнага каледжа імя М. І. Глінкі (кіраўнік — Алесь Собаль, за раялем — Эдуард Зарыцкі, дырыжор — Аляксей Клімовіч). Вяртаннем у краіну дзяцінства для старэйшага пакалення гледачоў сталі знаёмыя песні Я. Крылатава «Цудоўнае далёка» (дырыжор — Вольга Крыпец) і Ю. Чычкова «Дзяцінства — гэта я і ты», якія ўпершыню дырыжыраваў навучэнец і пераможца конкурсу дырыжораў Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі Сяргей Вярбіла.

Сярод харавых калектываў дзіцячых музычных школ мастацтваў найбольшыя авацыі гледачоў былі адрасаваны ўзорнаму хору «Тоніка» Дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 1 імя Л. Александроўскай (дырыжор — Аляксей Снітко), у выкананні якога яркімі фарбамі было напоўнена гучанне традыцыйнага спірычуэла ў апрацоўцы М. Хогана «*Music down in my soul*» («Музыка глыбока ў маёй душы»). Вядучую ролю ў развіцці дзіцячага харавога выканання гэты калектыў даказаў у 2016 годзе, атрымаўшы Гранпры ІІ Мінскага харавога конкурсу «Вясновы спеў». Харавое свята не абышлося без пераможцы гэтага конкурсу Віктара Папова. Пяшчотна гучаў хлапечы голас у песні А. Пахмутавай «Белавежская пушча».

У выкананні аркестра рускіх народных інструментаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (мастацкі кіраўнік і дырыжор — Уладзімір Чэрнікаў) прагучалі творы беларускіх кампазітараў, апрацоўкі беларускіх народных песень і танцаў з удзелам навучэнцаў і выкладчыкаў Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі — Настассі Рабцэвіч, Сяргея Падавалава, Вячаслава Сачыловіча, Ганны Мілавідавай.

Апафеозам харавога свята і прафесійнай харавой музыкі стала выступленне зводнага хору (мастацкі кіраўнік — Аляксей Снітко) і хору навучэнцаў спецыяльнасці «Спевы» Мінскага дзяржаўнага каледжа імя М. І. Глінкі (мастацкі кіраўнік — Кіра Славінская) у суправаджэнні аркестра рускіх народных інструментаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Гучала «Песня пра Мінск» Уладзіміра Алоўнікава як прызнанне ў любові роднай сталіцы.




Народны хор Мінскага дзяржаўнага каледжа імя М. І. Глінкі.

У другі дзень харавога свята канцэртную праграму — россып беларускіх народных мелодый — прадставілі ў гандлёвым цэнтры «Сталіца» шэсць заслужаных народных калектываў: фальклорны ансамбль «ФолкРада» Дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 17, заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь ансамбль беларускай песні «Цернічка» Цэнтра культуры і спорту чыгуначнікаў, фальклорны ансамбль народнай песні «Святкі» Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі «Золак», ансамбль народнай музыкі «Медуніца» сярэдняй школы № 11. Вядучая канцэртафестывалю Настасся Булатоўская прадставіла народныя калектывы Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі: народны хор (мастацкі кіраўнік — Ганна Мілавідава) і інструментальны ансамбль каледжа (кіраўнік — Яўген Мароз). Амаль чатыры гадзіны наведвальнікі гандлёвага цэнтра атрымлівалі асалоду ад гучання народнай музыкі.

**Наталля КАРДАШОВА**

# СЭРЦА РОДНАЕ...

## Трагічны шлях Багдановіча ў кантаце на словы паэта

Прэм'ера кантаты адбылася падчас аўтарскага вечара беларускага кампазітара Уладзіміра Грушэўскага, што ладзіўся ў малой зале Белдзяржфілармоніі пад назвай «Музыка для каханай».

Як адзначыў сам Уладзімір Грушэўскі, гэтая падзея стала самай значнай у яго творчай біяграфіі: да канцэрта ў зале філармоніі ён ішоў усё жыццё. Невыпадкова, што мара кампазітара ажыццявілася менавіта ў дзень яго юбілею. На дадзены момант Уладзімір Грушэўскі ахапіў у сваёй творчасці амаль усе жанры музычнага мастацтва, акрамя тэатральных, аднак галоўным кірункам кампазітарскай дзейнасці ён лічыць вакальную музыку. Заканамерна, што пасля інструментальных мініяцюр прагучала прэм'ера кантаты «Сэрца роднае» на вершы беларускага класіка Максіма Багдановіча ў адмысловым выкананні заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь Дзяржаўнага камернага хору Беларусі. Калектыў вядомы не толькі высокім узроўнем майстэрства, але і як папулярызатар твораў беларускіх кампазітараў: для яго спецыяльна пісалі творы І. Лучанок, А. Мдзівані, Л. Захлеўны, А. Бандарэнка, В. Капыцько, Л. Сімаковіч,



Уладзімір Грушэўскі.

А. Атрашкевіч, Я. Паплаўскі, А. Залётнеў, Дз. Лыбін.

Уладзімір Грушэўскі адзначыў, што дырыжор хору і яго мастацкі кіраўнік заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Наталля Міхайлава здолела ў поўнай меры прачытаць мастацкую канцэпцыю кантаты і раскрыць творчую задуму кампазітара. Асноўная ідэя твора — увасабіць трагічны жыццёвы шлях вялікага беларускага паэта, таму драматургія кантаты развіваецца па прынцыпе паступовага руху да трагічнай развязкі. Уражаннямі ад работы над кантатай падзялілася Наталля Міхайлава:

— Харавую музыку Грушэўскага беларускі слухач адкрыў значна раней, чым на юбілейным вечары: на адным з канцэртаў да з'езду Саюза кампазітараў некалькі частак з кантаты ўжо прагучалі. Але цалкам кантату беларуская публіка змагла пачуць толькі на мінулым канцэрце. Выконваць твор было як даволі складана, так і вельмі цікава. Музычная мова кантаты няпростая ў адрозненне ад інструментальнай музыкі Грушэўскага, але адчуваецца асноўны творчы прынцып кампазітара — меладыка, завершанасць музычных фраз. Можна адчуць пазіцыю аўтара да тэкстаў Багдановіча, што значна спрыяла дакладнасці ўвасаблення кампазітарскай задумы. Над кантатай працавалі супольна: абодва бакі (і кампазітар, і дырыжор) ішлі на саступкі дзеля адной галоўнай мэты — найлепшага выканання. Для дзяржаўнага камернага хору гэты вечар стаў значнай падзеяй у творчай біяграфіі: канцэрт даў магчымасць праявіць талент маладым салістам. Напрыклад, тэнар Арцём Пякарскі атрымаў шчаслівы шанс пачаць сваю творчую кар'еру. Спадзяёмся, што аўтар кантаты застаўся задаволены вынікам нашай супольнай працы.

Увогуле, канцэрт Уладзіміра Грушэўскага можна назваць вечарам прэм'ер. Акрамя кантаты, упершыню былі выканаы таксама інструментальныя п'есы, як «Балалайка-сірацінка», «Першы снег», Скерца для дзвюх скрыпак і фартэпіяна, а таксама рамансы на вершы Ю. Воранава. Кампазітара цікавяць рознахарактарныя паэтычныя тэксты. Сам Грушэўскі пракаментаваў свой прынцып адбору літаратурнай першаасновы для вакальных твораў такім чынам:

— Галоўнае, каб верш мяне захапіў. Напрыклад, да паэмы Міколы Гусоўскага я звяртаўся сем разоў! І кожны раз адкрываў у гэтым адвечным творы нешта новае! (на тэкст паэмы М. Гусоўскага «Песня пра зубра» Грушэўскі стварыў араторыю «Гусаўца голас». — **Заўв. аўт.**).

Парадаваў слухачоў Грушэўскі і найбольш знакамітымі сваімі творамі, якія ўжо сталі класікай студэнцкага рэпертуару. Прагучала Таката для баяна № 2 у выкананні студэнта Мінскага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі Дзяніса Тапуця. Гэтая невялікая, але вельмі яркая віртуозная п'еса не першы год з'яўляецца абавязковым творам для баяна на Рэспубліканскім адкрытым конкурсе выканаўцаў на народных інструментах імя І. Жыновіча, а на міжнародным конкурсе у Клінгентале (Германія) — самым прэстыжным для баяністаў. Таката № 2 Грушэўскага была прызнана лепшай п'есай сучаснага кампазітара.

Юбілейны вечар Уладзіміра Грушэўскага адзначылі прысутнасцю вядомыя сучасныя кампазітары і дзеячы мастацтваў Беларусі: Віктар Войцік, Галіна Гарэлава, Уладзімір Кур'ян, Радаслава Аладава, Надзея Бунцэвіч. Як адзначыў Грушэўскі, «у Беларусі вельмі моцная кампазітарская школа, у кожнага аўтара свой непаўторны стыль. Музыка В. Кузняцова, Г. Гарэлавай, В. Войціка, С. Картэса, В. Капыцько, У. Кур'яна, а таксама кампазітараў новага пакалення В. Падгайскай і К. Яськова павінна выконвацца ў нашай краіне і па-за яе межамі».

Шмат часу кампазітар аддае выдавецкай дзейнасці. Так, дзякуючы выдавецтву Грушэўскага свет пабачылі ўжо больш за сорак зборнікаў нотнай літаратуры, дзе прадстаўлены шырокі пласт вучэбнага і канцэртнага рэпертуару з п'ес менавіта сучасных беларускіх аўтараў.

Кампазітар натхнёны новымі творчымі задумамі, плануе звярнуцца да канцэртнага і сімфанічнага жанраў. Уладзімір Грушэўскі паведаміў, што ідэю стварэння сімфоніі ён выношвае ўжо цягам дзевяці гадоў і, адчуўшы прыліў сіл пасля канцэрта, у хуткім часе возьмецца за яе ўвасабленне. Спадзяёмся, што поспех «Музыкі для каханай» дасць кампазітару імпульс для далейшай творчай дзейнасці.

**Варвара ЦАРУК**

# ПРЫВІТАННЕ З МІНУЛАГА

## праз аўтарскія лялькі майстроў клуба «Папараць-кветка»



В. Лугаўская «Святочны выхад». Капыльска-Клецкі строй.



Т. Трушына «Папараць-кветка». Лепельскі строй.

У наш час лялька ўспрымаецца як атрыбут дзіцячых гульняў. Але першапачаткова лялька з'яўлялася абрадавым сімвалам, своеасаблівым спосабам пазнання жыцця. Майстры стваралі лялькі па асаблівай тэхналогіі, якая магла залежаць ад месцазнаходжання і народных традыцый. У мастацкай галерэі імя Міхаіла Савіцкага працуе выстаўка народнай і фальклорнай лялькі, дзе прадстаўлены адноўленыя гульнявыя, абрадавыя і рытуальныя беларускія народныя лялькі з вёсак Мінскай, Магілёўскай, Брэсцкай і Віцебскай абласцей.

На такія выстаўкі заўсёды прыходзіш у прадчуванні чароўнага. Адразу разумееш, што тут знойдуцца экспанаты, здольныя захапіць і знешняй фактурай, і сэнсавым складнікам. Выстаўка арганізаваная клубам «Папараць-кветка», які дзейнічае пры БНТУ. Яго ўдзельнікі не толькі ствараюць аўтарскія лялькі, але й вывучаюць народныя традыцыі іх выканання, арганізоўваюць экспедыцыі ў розныя рэгіёны Беларусі, дзе, магчыма, цяпер не робяць такіх лялек, але шмат хто з жыхароў вёсак памятае, як рабілі раней. Прадстаўнікі клуба запрашаюць мясцовых майстроў паўдзельнічаць у працэсе, тым самым успомніць дзяцінства і передаць майстэрства будучаму пакаленню.

У экспазіцыі — каля васьмідзесяці лялек. Кожная з іх — унікальная работа, на якую аўтар аддаў шмат часу і сіл. Частка экспазіцыі — беларускія народныя лялькі, зробленыя ў розных рэгіёнах краіны. На кантрасце з беларускай народнай лялькай прадстаўленая калекцыя лялек, сабраная з розных рэгіёнаў Расіі. Можна пабачыць розніцу і падабенства ў традыцыі стварэння лялек абодвух народаў. Напрыклад, беларуская лялька складаецца з асобных дэталяў і частак, якія сшываюць паміж сабой, а руская звязваецца вузельчыкамі і скручваецца.

Пры стварэнні беларускай народнай лялькі майстры ў асноўным робяць акцэнт на касцюме героя. А вось твары робяць абсалютна нехарактарнымі, нават безэмацыйнымі. Уся справа ў тым, што аўтары зыходзяць не з асобы, іх цікавяць традыцыі. Сутнасць менавіта ў прадстаўленні касцюма, кожная дэталь якога — на аснове гістарычных звестак. Калі гэта вышыўка, то яна сапраўдная. Майстрыхі менавіта рукамі, а не на машынцы, ствараюць арнамент. Калі гэта андарак, ён абавязкова тканы, выраблены на маленькім станку. Калі пояс, то абавязкова пляцёны, а кажух павінны быць валяным. Цікава, што многія жанравыя кампазіцыі выкананыя з асаблівай дэталізацыяй: кожны чаравічак выглядае як сапраўдны. Калі, напрыклад, майстар стварыў швачку, то ў яе руцэ вы зможаце ўбачыць іголачку, калі музыканта, то абавязкова з інструментам.

Куратар выстаўкі Таццяна Трушына зрабіла акцэнт на фальклорнай лялькі. Яна прадставіла цэлы пантэон паганскіх багоў, сярод якіх бог зімы — Зюзя, бог Восені — Жытнік, багіня лета — Цёца, багіня вясны — Лёля, а таксама іншыя персанажы з беларускага фальклору.

Асобная частка экспазіцыі — лялькі, прысвечаныя беларускім музыкам. Тут таксама галоўная задача — прадэманстраваць касцюм, які заўсёды мае адметныя рысы. Яшчэ можна ўбачыць ёлачныя цацкі, зробленыя з бычынага мачавога пузыра, напоўненага гарохам, або мячы з каровінай воўны, якія каталіся проста на карове. Многія лялькі раскрываюць асаблівасці жыцця беларускага народа. Так, напрыклад, майстры паразважалі на тэму шляхецкага побыту, расказалі пра шлюбныя традыцыі, захоўваючы якія маладыя маглі быць упэўненымі, што іх саюз будзе шчаслівым. Побач з лялькамі можам назіраць сурвэткі, абрусы, навалачкі, зробленыя жыхарамі вёсак Беларусі ў пасляваенныя часы. Некаторыя з прадстаўленых рэчаў выкарыстоўваюцца ў вёсках і сёння.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**



В. Лугаўская «Рукадзельніца». Калінкавіцкі строй.

## Культурны ракурс



У цэнтры Оршы, на тэрыторыі былога аршанскага замка, дзе некалькі стагоддзяў стаяў драўляны вадзяны млын, у 1902 годзе пабудавалі новы — цагляны. Млын з'явіўся разам з арачным мостам. Абодва месцяцца на бутавым падмурку, абодва — помнікі прамысловай архітэктуры Беларусі пачатку XX стагоддзя і мясцовыя славутасці.

У трохпавярховым будынку цяпер знаходзіцца этнаграфічны музей «Млын». Першапачаткова млын працаваў на пары, але ў 1910 годзе новы гаспадар загадаў усталяваць электрычны генератар. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі млын не дзейнічае, а яго будынак доўгі час выкарыстоўваўся пад розныя патрэбы. Нарэшце ў 1991 годзе ў ім вырашылі размясціць этнаграфічны па тыпе і навукова-асветніцкі па профілі музей. Праз чатыры гады новая ўстанова прыняла першых наведнікаў.

Музей размешчаны ў нізіне, побач з рэчкай. У ніжняй яго частцы можна ўбачыць кола вадзянога млына. Вокны музея прыцягваюць увагу незвычайнымі рамамі старадаўняй канструкцыі: па цэнтры яны дзеляцца вертыкальнай рэйкай, якую гарызантальна перасякаюць яшчэ тры рэйкі. Сёння адрэстаўраваны будынак мае цудоўны выгляд і разам з пабудовамі былога езуіцкага калегіума ўпрыгожвае архітэктуру цэнтральнай часткі Оршы.

У музейных фондах захоўваецца ўнікальны этнаграфічны матэрыял: адзенне і прадметы побыту беларускага сялянства канца XIX— пачатку XX стагоддзя, узоры рамеснай і прыкладной творчасці, ручныя работы сучасных беларускіх майстроў. У экспазіцыі шмат вышываных ручнікоў, якія ўражваюць узорамі і расфарбоўкамі. Немалую гістарычную каштоўнасць уяўляе збор традыцыйных нацыянальных жаночых касцюмаў, якія сяляне апраналі па буднях і ў святы.

**Валянціна СТРОК**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
18.05.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1566.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1775

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.



ISSN 0024-4686